

# Царква

№ 4 (47), сьнежань 2005 КАЛЯДЫ

*“Бэтлеем адчыніў рай —
Прыйдзіце і ўбачыце.
Мы знайшлі радасьць у тайне: прыйдзіце, прымем рай унутры пячоры. Там зьявіўся непаліты корань, з якога вырасла кветка прабачэньня; там знаходзіцца студня някопаная, з якое Давід некалі прагнуў напіцца; там Дзева, нарадзіўшы Дзіця, супакоіла смагу Адама і Давіда.*
***Дык пойдзем туды, дзе нарадзілася Дзіцятка малое, спрадвечны Бог”.***

*Ікас Ютрані на сьвята Нараджэньня Хрыстовага*



• *Ікона Маці Божай Жыровіцкай з былога Быценьскага манастыра айцоўбазыльянаў. (Сярэдзіна XVIII ст.)*

## 15 гадоў таму аднавіла сваю легальную дзейнасьць БГКЦ

***Сёлета мы ўзгадваем падзеі 15-гадовай даўніны, калі нечакана для многіх заявілі пра сваё існаваньне грэка-католікі ў Беларусі.***

Але й да гэтага нашая Царква жыла, толькі ў падпольлі. Варта ўзгадаць тут падпольнае місіянерскае служэньне айца Віктара Данілава з Горадні, які быў таемна высьвячанымітрапалітам Уладзімірам Стэрнюком на грэка-каталіцкага сьвятара ў 1976 годзе; прынагодныя падпольныя набажэнствы, якія служылі айцы базыльяне ў касьцёлах і ў хатах вернікаў у Слоніме, Лапішыне, Пінску падчас тайных паездаку Беларусь. Таксама ўспомнім і публічнае (да 1980-ых гадоў!) служэньне ў Пінску пры рыма-каталіцкай катэдры некалькіх грэка-каталіцкіх манахіняў з створанай сьпецыяльна для працы на Палесьсі манаскай супольнасьці «Дзеці Марыі». Сёньня мы ведаем, што і многія простыя вернікі з былых уніяцкіх парафіяў у Заходняй Беларусі захоўвалі ў сэрцы вернасьць сваёй Царкве.

Сярод шэрагу падзеяў 15-гадовай даўніны, пасьля якіх у беларускім грамадзтве многія загаварылі пра адраджэньне Уніі, належыць адзначыць прыезд у Беларусь 10-16 сакавіка1990 году Апостальскага Візітатара для беларусаў-католікаў узамежжа айца Аляксандра Надсана. Ён прыехаў тады прыватна — даставіў у Беларусь партыю гуманітарнай дапамогі для пацярпелых ад Чарнобыльскай катастрофы. Аднак шматлікія сустрэчы з айцом А. Надсанам, на якіх ішла гаворка пра Бога, пра Унію, пра чарнобыльскую бяду і адраджэньне Бацькаўшчыны закранулі сэрцы многіх. Уласна тады адбыліся першыя хросты ва ўсходнім абрадзе, першыя публічныягрэка-каталіцкія набажэнствы. Асобна трэба адзначыць дзень 11 сакавіка 1990 году, калі ў Менску ў Кальварыйскім касьцёле ўпершыню пасьля 1839 году была адслужанапублічная грэка-каталіцкая Боская Літургія, на якую сабралася некалькі соцень чалавек. Разам з айцом А.Надсанам яе саслужыў а. Ян Матусевіч, будучы дэкан БГКЦ. Затым былі яшчэ сустрэчы з моладдзю, гутаркі ў бальніцах з хворымі дзецьмі, іх бацькаміды медперсаналам, шматлікія выступы перад беларускай інтэлігенцыяй. 14 сакавіка а. Надсан адслужыў другую памятную сьв. Літургію ва ўсходнім абрадзе — у Курапатах, у памяць аб ахвярах сталінскага тэрору, а на наступны дзень — яшчэ адну, перад якой прынялі хрост дзесяць маладых менчукоў.

У шэрагу падзеяў 1990 году, якія прывялі да легалізацыі БГКЦ на Бацькаўшчыне, нельга не адзначыць выхад часопісу «Унія» і ўрачыстую вечарыну-прэзэнтацыю яго 6 жніўня 1990 году. Ідэя і матэрыялы часопісу «Унія» захапілі многіх, хто прагнуў Сьвятлаі Праўды.Лагічным працягам стала заснаваньне парафіяў. І сёньня мы з удзячнасьцю ўзгадваем украінскага грэка-каталіцкага мітрапаліта Уладзіміра Стэрнюка, які не пабаяўся ўзяць пад сваю апеку беларускіх грэка-католікаў. 19 кастрычніка 1990 году ён выдаў грамату на арганізацыю першай грэка-каталіцкай парафіі ў Менску.

Сёлета БГКЦ адзначала 525-ыя ўгодкі з дня нараджэньня сьв. ЯзафатаКунцэвіча,архібіскупа Полацкага, ушаноўвалі мы памяць Полацкіх базыльянаў у 300-ыя ўгодкі іх мучаніцкай сьмерці ды дзякавалі за апеку над нашым Краем Маці Божай Жыровіцкай,узгадваючы 275-ыя ўгодкі ўрачыстай каранацыі яе цудатворнага абраза залатымі папскімі каронамі. Вось жа таму сёньня гаворым не пра стварэньне 15 гадоў таму нейкай новай Царквы, а пра аднаўленьне легальнай дзейнасьці той Царквы, у якой была Еднасьць першых апосталаў, за якую аддалі жыцьцё сьв. Язафат і Полацкія мучанікі, да якой належалі многія пакаленьні нашых продкаў, што шукалі апекі ў Маці Божай Жыровіцкай.

***Шаноўныя браты і сёстры!***

***Шчыра віншуем***
***усіх вас са сьвятам***
***Нараджэньня Хрыстовага!***
*Няхай Нованароджанае*
*Дзіцятка Ісус адорыць вас і вашыя*
*сем'і Сваімі шчодрымі ласкамі,*
*напоўніць вашыя сэрцы*
*Сваім сьвятлом, супакоем*
*ды ўдзячнасьцю за бязьмежную*
*Боскую Любоў і Міласэрнасьць,*
*якую Ён нясе ў наш сьвет!*



# Пастырскае слова

## Апостальскага візітатара «Ad nutum Sanctae Sedis» для грэка-каталікаў Беларусі

## на сьвята Раства Хрыстовага 2005 году

**Вялебныя Айцы,**
**Дарагія Манахі, Манахіні і Браты Семінарысты,**
**Любыя ў Госпадзе Браты і Сёстры,**
**Шаноўныя Сябры!**

*Паказалась з неба яснасьць небывала*
*Грамада анёлаў песьню засьпявала:*
*«Хвала Богу на вышынях,*
*спакой людзям на нізінах».*

*Традыцыйная беларуская калядка*

**1** Словы гэтай старадаўняй беларускай калядкі ўводзяць нас у Таямніцу Нараджэньня Госпада, Бога і Збаўцы нашага Ісуса Хрыста. У гэтай парадаксальнай Таямніцы людзі добрай волі ўжо больш за дзьве тысячы гадоў знаходзяць радасьць, супакой і надзею.

На нашай беларускай зямлі Дабравесьце пра нараджэньне Ісуса Хрыста зазьзяла нашым продкам больш за тысячу гадоў таму, і праз стагоддзі яно прасьвятляла радасныя й сумныя часы жыцьця нашага народу. Тое ж самае Евангельле й сёньня зьяўляецца крыніцай сьвятла і духовай моцы для ўсіх людзей добрай волі, якія шчыра й сур'ёзна клапоцяцца пра дабро нашай Бацькаўшчыны.

**2** Шаноўныя і любыя ў Госпадзе Браты і Сёстры!

У годзе, што заканчваецца, Сусьветная Царква разьвіталася з сваім Першаярархам Папам Янам Паўлам II, які пасьля 26-ці гадоў служэньня на Рымскім Пасадзе сьвятога Пятра адышоў у вечнасьць 2 красавіка 2005 году. 19 красавіка новым Папам Рымскім быў абраны кардынал Ёзаф Рацынгер, які прыняў імя Бенядыкта XVI.

Мы, беларускія грэка-каталікі, вельмі ўдзячныя ўсім хрысьціянам Беларусі, праваслаўным і пратэстантам, а таксама ўсім людзям добрай волі, што ў тыя асаблівыя дні яны выразілі нам сваю духовую блізкасьць і людзкую салідарнасьць.

Вялікі запавет жыцьця ды навучаньня Сьвятога Айца Яна Паўла II застаецца для нас каштоўным скарбам, які — разам з нашымі братамі лацінскага абраду — хочам асэнсаваць у душпастырскай дзейнасьці ў новым, 2006-ым годзе. Новае сьвятло і новую энергію на гэтым шляху знаходзім у першапастырскім служэньні Яго Сьвятасьці Папы Бенядыкта XVI.

Вялікай падзеяй у жыцьці Каталіцкай Царквы ў мінулым годзе быў XX Сусьветны Дзень Моладзі ў Кёльне. Гэты Дзень Моладзі, скліканы яшчэ Сьвятым Айцом Янам Паўлам II, стаў для новага Папы Бенядыкта XVI першай вялікай арэнай вяшчаньня Евангельля маладым людзям з усіх кантынентаў. Сярод удзельнікаў той вялікай духовай падзеі было каля тысячы пілігрымаў з Беларусі, сярод іх — каля ста грэка-каталікаў. У малітве перад Госпадам хочам выказаць удзячнасьць шматлікім асобам і арганізацыям, якія дапамаглі нам арганізаваць Пілігрымку ў Кёльн. За дапамогу ў спраўным пераезьдзе мяжы шчыра дзякуем Камітэту па справах рэлігій і нацыянальнасьцяў пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь.

Моладзь з Беларусі ўпершыню ў гісторыі Сусьветных Дзён Моладзі магла пачуць у Кёльне катэхезы на роднай, беларускай мове. Гэта каштоўны знак павагі Каталіцкай Царквы да мовы і культуры Беларусі ды заахвочваньне, каб мы ўсё больш і больш шанавалі нашую беларускую мову, культуру і гісторыю ды горача любілі нашую Бацькаўшчыну Беларусь.

Да катэдральнага сабору гораду Кёльн, дзе ўшаноўваюцца рэліквіі Трох Мудрацоў, прыбыло з усяго сьвету каля аднаго мільёну маладых пілігрымаў. Як евангельскія Мудрацы прыйшлі пакланіцца Нованароджанаму Ісусу, так і маладыя пілігрымы «прыйшлі пакланіцца Яму». З вуснаў Папы Бенядыкта XVI яны пачулі ў Кёльне між іншымі такія словы:

*«Мудрацы, што паходзілі з Усходу, — гэта толькі першыя ў доўгім шэрагу мужчынаў і жанчынаў, якія ў сваім жыцьці ўвесь час шукалі позіркам Божую зорку, якія шукалі таго Бога, Які блізкі нам, чалавечым істотам, і Які паказвае нам дарогу».*

Зразумела, што гэтыя словы скіраваны ня толькі да моладзі. Усе хрысьціяне — і моладзь, і старэйшыя — пакліканыя, каб за прыкладам Трох Мудрацоў, якіх Царква ўзгадвае ў Літургіі Раства Хрыстовага, ісьці да Таго, Які сказаў пра Сябе «Я — Дарога, і Праўда, і Жыцьцё» *(Ян 14, 6)*. Таму з асаблівай увагай хочам прыняць словы Сьвятога Айца: *«Дапамажыце людзям адкрыць сапраўдную Зорку, якая паказвае дарогу: Ісуса Хрыста» (Гамілія да моладзі ў Кёльне, 21.08.05).*

Тры евангельскія Мудрацы, якія шукаюць Хрыста — гэта протапласты шчырых людзей навукі і культуры ўсіх пакаленьняў. Таму ў сьвяточны час Раства Хрыстовага хочам у нашай малітве даручаць Нованароджанаму Хрысту ўсіх беларускіх вучоных, дасьледчыкаў, мастакоў, пісьменьнікаў і настаўнікаў. Хочам прасіць асаблівай Божай ласкі для іхняга інтэлектуальнага подзьвігу дзеля духовага дабра Беларусі і дзеля выхаваньня маладога пакаленьня беларускага народу ў духу хрысьціянскага патрыятызму.

**3** Усе мы памятаем, што ў мінулым 2005 годзе споўнілася 60 гадоў ад заканчэньня Другой сусьветнай вайны і перамогі над фашысцкімі захопнікамі. Як вядома, нашая Царква, разам з усім беларускім народам, у той страшны час панесла вялікія ахвяры. Спаміж іх заўсёды ўзгадваем мучаніцкую сьмерць экзарха нашае Царквы а. Антона Неманцэвіча ў менскай турме гітлераўскай Службы бясьпекі 6 студзеня 1943 году. Ягоная ахвяра — жыцьця і сьмерці за Хрыста і Царкву — і сёньня заахвочвае да руплівай вернасьці Хрысту і Царкве ўсіх грэка-каталікаў, а асабліва вернікаў, што спаконвеку жывуць на тэрыторыі ягонага архіпастырскага служэньня, у прыватнасьці, на Слонімшчыне і Піншчыне.



• *Экзарх Антон НЕМАНЦЭВІЧ*



• *Архімандрыт Андрэй ЦІКОТА*

Мы глыбока верым, што ахвяра жыцьця экзарха Антона Неманцэвіча ў час Другой сусьветнай вайны, а таксама мучаніцтва за веру нашых сьвятароў і вернікаў у час сталінскага тэрору, асабліва архімандрытаў Фабіяна Абрантовіча, замучанага ў маскоўскай Бутырскай турме 2 студзеня 1946 году, і Андрэя Цікоты, які памёр 13 лютага 1952 году зьнясілены турэмнымі ўмовамі ў сібірскім лагеры ў Тайшэце, прывялі да аднаўленьня легальнай душпастырскай дзейнасьці нашае Царквы 15 гадоў таму, ужо ў незалежнай Беларусі.

Гэта ўвосень 1990 году адбыліся першыя маштабныя публічныя сустрэчы беларускіх грэка-католікаў. Годам раней, 12 лістапада 1989 году, група грэка-каталікаў


• Архімандрыт Фабіян АБРАНТОВІЧ

з Менску і іншых гарадоў Беларусі сьвяткавала ў Барунах з айцом Янам Матусевічам урачыстасьць у гонар сьвятамучаніка Язафата. Але толькі ў 1990 годзе прадстаўнікі розных грэка-каталіцкіх супольнасьцяў сабраліся ў Віцебску, каб на Ўсьпенскай горцы — месцы забойства сьвятога Язафата, усталяваць памятны крыж. Крыху раней, 19 кастрычніка 1990 году, ад львоўскага грэка-каталіцкага мітрапаліта Ўладзімера Стэрнюка была атрыманая грамата на арганізацыю парафіі ў Менску. Таму сёлета мы адзначаем 15 гадоў з моманту аднаўленьня душпастырскай дзейнасьці Грэка-Каталіцкай Царквы ў Беларусі. Мы кажам пра аднаўленьне легальнай дзейнасьці Царквы, а не пра аднаўленьне самой Царквы, таму што мы не прызнаем, каб нейкая акупацыйная ўлада магла ліквідаваць Царкву, якая мае ня толькі арганізацыйны, але і духовы характар.

Успамінаем перад Госпадам тыя дні і выказваем асаблівую падзяку ўсім сьвецкім вернікам, намаганьнямі якіх былі арганізаваныя і зарэгістраваныя першыя парафіі. Дзякуем усім сьвятарам і вернікам, якія на працягу мінулых 15-ці гадоў актыўна намагаліся разьвіваць душпастырскую дзейнасьць парафіяў нашае Царквы.

За гэты вялікі Божы дар прадстаўнікі ўсіх нашых парафіяў, асабліва моладзь, дзякавалі Госпаду Ісусу Хрысту ў двух рэгіянальных Сынаксах (братэрскіх малітоўных сустрэчах) — у Віцебску 12 лістапада і ў Берасьці 27 лістапада. Яшчэ раз нашую ўдзячнасьць Міласэрнаму Хрысту Чалавекалюбцу хочам выказаць ва ўсіх нашых парафіях у Дзень Раства Хрыстовага — 25 сьнежня 2005 году. У Боскай Літургіі ў гэты дзень, у малітве, выказваем падзяку Сьвятому Апостальскаму Рымскаму Пасаду, ягоным Прадстаўнікам — Апостальскім нунцыям у Беларусі, ватыканскай Кангрэгацыі Ўсходніх Цэркваў, а таксама рыма-каталіцкім біскупам, сьвятарам і вернікам, якія на працягу 15-ці гадоў аказвалі нам сваю пастырскую і братэрскую падтрымку.

Сёньня, калі мы ўсе — душпастыры й вернікі — затрымліваемся ў духу ля Бэтлеемскіх ясьляў Бога-Чалавека, шчыра просім у малітве пра Ягонае блаславеньне для працэсу поўнай нармалізацыі душпастырскай дзейнасьці нашай Царквы, у тым ліку і для рэгістрацыі новых парафіяў, і для пабудовы новых храмаў.

У сьвяточны час Раства Хрыстовага з удзячнасьцю ўзгадваем усіх Дабрадзеяў, якія дапамагаюць нашай Царкве несьці евангелізацыйнае сьведчаньне Божае Міласэрнасьці грамадзтву Беларусі. І ў гэтым годзе за духовую і матэрыяльную салідарнасьць дзякуем асабліва італійскім каталіцкім сем'ям, якія ўжо шмат гадоў кожнае лета прымаюць тысячы беларускіх дзяцей на аздараўленьне.

**4** Любыя ў Госпадзе Браты і Сёстры!

Сьвяты Раства Хрыстовага ўводзяць нас у Новы 2006 Год, у якім хочам умацаваць нашую малітву і нашыя высілкі на карысьць разьвіцьця культуры дыялогу і братэрскага супрацоўніцтва Цэркваў у Беларусі, дзеля агульнага дабра ўсіх грамадзянаў.

Добрай нагодай да такой малітвы будзе ўжо блізкі Тыдзень малітваў за еднасьць хрысьціянаў 18-25 студзеня. У студзені 2006 году сумесным малітвам хрысьціянаў ва ўсім сьвеце будуць спадарожнічаць словы Ісуса Хрыста: «Дзе двое альбо трое сабраныя ў імя Маё, там Я сярод іх» *(Мц 18,18-20)*. Міжканфесійная душпастырская праграма Экуменічнага тыдня ў 2006 годзе заахвочвае нас «Будаваць еднасьць хрысьціянаў з Ісусам спаміж нас» *(Ян 13,14)*. Гэта заклік да ўзаемнага прабачэньня, што лечыць памяць, заклік да супакою і зьяднаньня ў надзеі, на якую чакае нашае грамадзтва.

Разам з братамі і сёстрамі з розных Цэркваў шчырым сэрцам паўтараем словы экуменічнай малітвы: ***«О Госпадзе, Божа жывы..., дай нам вытрымку ў шляху за Тваім Духам, учыні, каб праз нашае супольнае сьведчаньне мы наблізіліся да найбольш слабых, дзеля абвяшчэньня ўсяму сьвету Добрай Весткі пра надыход твайго Валадарства»*** *(Малітва на Экуменічны Тыдзень 2006 г.)*.

Няхай заклік да «абвяшчэньня ўсяму сьвету Добрай Весткі» пра прысутнасьць сярод нас Спрадвечнага Сына Божага, які стаў чалавекам і зьляецца шчодрым Даўцам сапраўднай надзеі, будзе выразам найлепшых калядных віншаваньняў, якія накіроўваем да ўсіх беларускіх грэка-католікаў: сьвятароў і вернікаў.

Шчыра віншуем са сьвятам Божага Нараджэньня нашых братоў і сёстраў рыма-католікаў: дастойных ярархаў, сьвятароў, манахаў і манахінь ды ўсіх вернікаў.

Словы віншаваньняў са сьвятам Раства Хрыстовага накіроўваем да нашых братоў і сёстраў праваслаўных і да хрысьціянаў іншых канфесіяў.

Сардэчныя сьвяточныя прывітаньні і зычэньні Божае ласкі накіроўваем да групы беларускай моладзі розных канфесіяў, што ў калядны час (29 сьнежня 2005 г. — 1 студзеня 2006 г.) удзельнічае ў Міжнароднай Сустрэчы Моладзі ў Мілане, арганізаванай Экуменічнай Супольнасьцю Тэзэ. Хай гэтая «Пілігрымка Надзеі і Даверу» прынясе багаты духовы плён, узмоцніць дух братэрства і супрацоўніцтва сярод беларускай моладзі розных Цэркваў.

Нашым шчырым жаданьнем зьяўляецца, каб словы гэтых сьвяточных віншаваньняў дайшлі да ўсіх Сыноў і Дачок Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы, што жывуць па-за душпастырскімі структурамі нашае Царквы і па-за межамі Бацькаўшчыны. Усіх вас узгадваем у асаблівы спосаб у сьвяточнай Боскай Літургіі ў нашых парафіях у Беларусі 26 сьнежня — у сьвята Найсьвятой Багародзіцы і ва ўспамін Праведнага Язэпа.

Сардэчныя віншаваньні з нагоды Раства Хрыстовага і Новага Году накіроўваем да ўсіх нашых Сяброў і Дабрадзеяў, да ўсіх людзей добрай волі.

З пастырскім блаславеньнем і калядным вітаньнем:

*Хрыстос нарадзіўся! —*
*Слаўце Яго!*

*Менск, Раство Хрыстова 2005 году.*

+ архім. Сергей Гаек

**+ Архімандрыт СЯРГЕЙ (Гаек)**
**Апостальскі Візітатар**
**для грэка-католікаў Беларусі**


• Берасьце, 27.11.2005. Малітоўная сустрэча з нагоды 15-ых угодкаў аднаўленьня легальнай душпастырскай дзейнасьці БГКЦ.

# Сустрэча Ўсходніх Каталіцкіх Ярархаў Еўропы ў Прэшаве

***У рэкалекцыйным доме Айцоў Езуітаў у горадзе Прэшаў, што ва ўсходняй Славакіі, 25-27 кастрычніка 2005 году прайшла чарговая Сустрэча Ўсходніх Каталіцкіх Ярархаў Еўропы.***



*• 26.10.2005. Ярархі Ўсходніх Каталіцкіх Цэркваў пасьля Боскай Літургіі ў грэка-каталіцкім катэдральным саборы сьв. Яна ў Прэшаве (Славакія).*

У гэтай сустрэчы, акрамя грэка-каталіцкіх ярархаў Славакіі — Уладыкі Яна Бабяка, япарха Прэшаўскага, і Ўладыкі Мілана Хаўтура, экзарха Кошыцкага,— удзельнічалі Першаярарх УГКЦ Яго Блаславенства Любамір і 9 іншых біскупаў з Украіны, 2 біскупы з Польшчы — мітрапаліт Перамышльска-Варшаўскі Ян (Мартыняк) і япарх Уроцлаўска-Гданьскі Ўладзімір (Юшчак), экзархі з Чэхіі, Францыі, Нямеччыны і Скандынавіі; Уладыка Сілард Кэрэстэш з Вугоршчыны, біскуп італа-албанскай япархіі Лунгра Эрколе (Лупіначчы), экзарх манастыра Гротафэрата Архімандрыт Эмільян (Фабрыкаторэ), а таксама Апостальскі Візітатар для грэка-католікаў украінцаў у Італіі, Гішпаніі і Ірландыі Ўладыка Глеб (Ланчына) ды Апостальскі Візітатар для грэка-католікаў Беларусі Архімандрыт Сяргей (Гаек) — разам 22 ярархі.

Сустрэча мела працоўны характар і была працягам паломніцтва прадстаўнікоў Грэка-Каталіцкіх Цэркваў Еўропы ў Італію, якое адбылося 6-11 чэрвеня 2005 году *(гл.: «Царква». № 2 (45), 2005, с. 5)*. На працягу двух дзён удзельнікі нарады дыскутавалі над душпастырскімі і кананічнымі аспэктамі захаваньня ўсходняй традыцыі ў новых культурных і сацыяльных умовах жыцьця вернікаў у Еўропе. Асновай для дыскусіі былі выклады прафесароў Папскага Ўсходняга Інстытуту ў Рыме — Архімандрыта Праф. Роберта (Тафта) і а. Праф. Кірылы Васіля.

Пасьля доўгіх і жывых дыскусіяў усходнія каталіцкія ўладыкі Еўропы прынялі рашэньне штогадова сустракацца для душпастырскай кансультацыі, якой дадзена назва *Consulta Hierarcharum Orientalium Catholicorum Europae (CHOCE), г. зн. Нарада Ярархаў Усходніх Католікаў Еўропы.*

Увечары ў аўторак, 25 кастрычніка, і ў сераду, 26 кастрычніка, ярархі Ўсходніх Каталіцкіх Цэркваў служылі ўрачыстую Боскую Літургію ў катэдральным саборы сьв. Яна ў Прэшаве. У чацьвер, 27 кастрычніка, уладыкі наведалі старажытныя драўляныя храмы ў ваколіцах Бардзява і Сьвідніка ды адслужылі Боскую Літургію ў новапашыраным (нядаўна разбудаваным) храме Боскай Мудрасьці ў горадзе Сьвіднік. Прысутнасьць адразу 20 уладык на Боскай Літургіі ў храме гэтай падкарпацкай мясьціны стала надзвычай важнай духовай падзеяй для вернікаў.

Нарада Ўсходніх Каталіцкіх Ярархаў Еўропы ў Прэшаве была выдатнай магчымасьцю для сустрэчы з шматлікімі вернікамі Славацкай Грэка-Каталіцкай Царквы, якая сёньня ва ўмовах дэмакратыі дынамічна разьвіваецца і адбудоўвае зьнішчаныя камуністычнымі ўладамі структуры.

# У архікатэдры РКЦ у Менску каранаваны абраз Божай Маці

***10 сьнежня 2005 году ў архікатэдры Рыма-Каталіцкай Царквы ў Менску адбылася ўрачыстая цырымонія каранацыі іконы Маці Божай Беззаганна Зачатай.***



Папская карона, выробленая з золата, была асьвячана і ўскладзена на ікону кардыналам Казімірам Сьвёнткам у прысутнасьці ўсіх каталіцкіх ярархаў Беларусі, сярод якіх быў таксама Апостальскі Візітатар для грэка-католікаў Беларусі архім. Сяргей (Гаек). Прысутнічалі і біскупы з Аўстрыі з групай вернікаў, шматлікія сьвятары з усіх дыяцэзіяў Беларусі, прадстаўнікі Беларускага Экзархату Рускай Праваслаўнай Царквы, дзяржаўнай улады, супрацоўнікі дыпламатычных службаў у Беларусі. Падчас урачыстай Імшы адбылося таксама асьвячэньне рэканструяванага галоўнага алтара храма і новага аргану, выробленага ў Аўстрыі, які зьяўляецца дарам епіскапату гэтай краіны.

Гэтая каранацыя мае выключны характар, бо гэта зусім новы абраз і пры ім яшчэ не адбываліся цуды. Абраз стаў дарам Папы Рымскага Яна Паўла II галоўнаму рыма-каталіцкаму храму Беларусі. Ян Павел II асьвяціў яго яшчэ 29 верасьня 2004 году на плошчы сьв. Пятра ў Ватыкане.

# Малітва за Беларусь у Фаціме

***З 28 кастрычніка па 1 лістапада 2005 году ў Санктуарыюме Маці Божай у Фаціме (Партугалія) праходзіла Еўрапейская Канферэнцыя асацыяцыі «Catholic Fraternity», якая пад патранатам Папскай Рады па справах сьвецкіх аб'ядноўвае супольнасьці, што ўдзельнічаюць у праграме Новай Евангелізацыі.***

У гэтай еўрапейскай канферэнцыі бралі ўдзел таксама й прадстаўнікі некаторых новых супольнасьцяў з Бразіліі. Сярод 1200 удзельнікаў форуму было больш за два дзясяткі біскупаў.

Сьвятую Імшу для ўдзельнікаў канферэнцыі ў суботу, 29 кастрычніка, узначальваў Апостальскі Візітатар для грэка-католікаў Беларусі Архімандрыт Сяргей (Гаек), які ў сваім казаньні гаварыў пра дзеяньне Сьвятога Духа і збаўчы характар таямніцы Крыжа Хрыстовага. У часе той сьв. Імшы ўдзельнікі маліліся за евангелізацыйную місію БГКЦ і за Беларусь. Пасьля Літургіі шмат хто з удзельнікаў, асабліва бразілійцы, абяцалі пастаянную малітву ў гэтых інтэнцыях.

1 лістапада — на сьвята Ўсіх Сьвятых паводле календара рымскага абраду — Архімандрыт Сяргей, у прысутнасьці пілігрымаў з італійскай Супольнасьці «Dives in Misericordia» («Бог багаты на міласэрнасьць»), саслужыў сьв. Імшу ў капліцы Зьяўленьняў Багародзіцы ў Фаціме ў падзячнай інтэнцыі з нагоды 15-годдзя адраджэньня Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы. На Дзяды — 2 лістапада — Архімандрыт Сяргей адслужыў Боскую Літургію за ўсіх заснулых вернікаў БГКЦ і за ўсіх памёрлых беларускіх патрыётаў у каталіцкім візантыйскім храме Ўсьпеньня Багародзіцы, што знаходзіцца ў Фаціме ў Доме пілігрыма «Domus Pacis».

# РУМЫНСКАЯ ГРЭКА-КАТАЛІЦКАЯ ЦАРКВА
## атрымала кананічны статус Вярхоўнага Архібіскупства

***Яго Сьвятасьць Папа Рымскі Бенядыкт XVI сваім рашэньнем ад 16 сьнежня 2005 павысіў кананічны статус Румынскай Грэка-Каталіцкай Царквы. Яна была павышаная з рангу мітрапалітальнай Царквы sui iuris (уласнага права) да рангу Вярхоўнага Архібіскупства, а яе Першаярарх, Яго Блаславенства Лукіян (Мурашан), Вярхоўны Архібіскуп Фагараш і Альба-Юлія (з пасадам у горадзе Бляж), атрымаў права ўзначальваць Сінод Біскупаў.***



*Уладыка Лукіян Мурашан*

У 1700 годзе амаль усе румыны, якія жылі ў Трансільваніі (Сяміградзе) прыступілі да Уніі з Рымам.

У кастрычніку 1948 году румынскі камуністычны ўрад ліквідаваў Грэка-Каталіцкую Царкву, якая ў той час налічвала 1,5 мільёны вернікаў, і перадаў яе храмы Румынскай Праваслаўнай Царкве. Грэка-каталіцкі біскуп Юлію Госу і мансіньёр Аляксандру Тодэа з сотнямі сьвятароў і вернікаў, якія не хацелі перайсьці ў праваслаўную Царкву, былі арыштаваныя. У 1969 годзе Папа Павел VI менаваў біскупа Юлію Госу кардыналам (вестка пра гэта была пададзеная толькі ў 1973 годзе праз тры гады пасьля ягонай сьмерці). Манс. Аляксандру Тодэа быў тайна рукапакладзены ў біскупы ў 1950 годзе і пасьля таго быў арыштаваны. У камуністычнай вязьніцы прабыў 13 гадоў (1951-1964). Пасьля краху камуністычнага рэжыму ў Румыніі ён быў прызначаны мітрапалітам Фагараш і Альба- Юлія, а ў 1991 годзе пастаўлены кардыналам.

У дэмакратычнай Румыніі была адноўлена кананічная структура Румынскай Грэка-Каталіцкай Царквы. Напрыканцы 2004 году Грэка-Каталіцкая Царква тут налічвала каля 750 тысячаў вернікаў, а ў 5 япархіях служыла 716 сьвятароў і да сьвятарства рыхтавалася 350 семінарыстаў.

# ЭКУМЕНІЧНАЕ СЬВЯТКАВАНЬНЕ ПАМЯЦІ АПОСТАЛА АНДРЭЯ Ў АЙХШТЭЦЕ

***29-30 лістапада ва Ўсходняй Калегіі (Collegium Orientale) у Айхштэце, што знаходзіцца ў Баварыі паміж Мюнхенам і Нюрнбергам, адбылося ўрачыстае сьвяткаваньне літургічнага ўспаміну Апостала Андрэя, Апекуна хрысьціянскага Ўсходу*** *(гл. фота).*

Прысутнасьць прадстаўнікоў Цэркваў розных краінаў і традыцыяў зрабіла сьвята сапраўднай экуменічнай і малітоўнай сустрэчай. На Вялікай Вячэрні 29 лістападу маліліся разам каталікі і праваслаўныя, вернікі ўсходняй і заходняй традыцыі. На ўрачыстасьцях у Айхштэце ад грэка-каталікоў былі: Уладыка Ян Бабяк, біскуп Прэшаўскі (Славакія), Уладыка Пятро Крык, Апостальскі экзарх у Германіі і Скандынавіі (УГКЦ), Уладыка Васіль Семянюк, дапаможны біскуп Тарнопальска-Збораўскі (УГКЦ) і вялебны айцец Архімандрыт Сяргей Гаек, Апостальскі візітатар для грэка-католікаў Беларусі. З прадстаўнікоў іншых канфесіяў і традыцыяў прысутнічалі: архібіскуп Пятро, Экзарх для Заходняй Эўропы Ўкраінскай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы, Уладыка Дам'ян, біскуп Копцкай Царквы для коптаў у Германіі і Ўладыка Вальтар Мікса, рыма-каталіцкі біскуп Аўгсбургу. Сярод прысутных на малітве сьвятароў былі таксама прадстаўнікі Украінскай Праваслаўнай Царквы Кіеўскага Патрыярхату.



Падчас сьвяточнай Боскай Літургіі ў дзень сьвята, 30 лістапада, якую ачольваў Уладыка Ян Бабяк (SJ), быў пастаўлены на дыякана адзін з семінарыстаў Усходняй Калегіі ў Айхштэце.

Адкрытасьць і сяброўскі дух сустрэчы, малітвамі сьв. апостала Андрэя, натхнялі аптымістычна глядзець на магчымасьць рэальнага паяднаньня ўсіх хрысьціянаў у адзін статак з адзіным Пастырам — Хрыстом.

**Семінарыст Алесь АЎДЗЯЮК,** *г.Айхштэт, Нямеччына*

# Рэлігійныя арганізацыі Беларусі вызвалены ад падатку на зямлю і нерухомасьць

Сваім Указам № 571 ад 1 сьнежня 2005 году Прэзідэнт Беларусі вызваліў усе рэлігійныя арганізацыі ад абкладаньня зямельным падаткам і падаткам на нерухомасьць. У прэс-службе Прэзідэнта Беларусі ўдакладнілі, што ад падатку вызваляецца тая маёмасьць рэлігійных арганізацыяў, што можа быць аднесена да асноўных сродкаў і выкарыстоўваецца ў рэлігійных, а не ў гаспадарчых або іншых мэтах.

Паводле ўказу да яе аднесены прадметы храмавай прасторы (алтары, іконы, чашы, рэліквіяры і інш.), прадметы, неабходныя для адпраўленьня абрадаў (крыжы, харугвы, богаслужбовая вопратка і інш.), выдавецкая прадукцыя рэлігійнага прызначэньня (богаслужбовая літаратура, Біблії, ноты, царкоўныя календары і інш.). Указ скіраваны на тое, каб палепшыць матэрыяльны стан рэлігійных арганізацыяў, фінансаваньне якіх адбываецца выключна за кошт добраахвотных ахвяраваньняў вернікаў, каб актывізаваць іх сацыяльную, асьветніцкую і гуманітарную дзейнасьць.

# Румынія: грэка-католікам вярнулі катэдру

***У нядзелю, 20 лістапада 2005 году, Катэдральны сабор сьв. Мікалая ў румынскім горадзе Орадэа (Трансільванія), які 60 гадоў знаходзіўся ў валоданьні праваслаўных, перададзены мясцовай япархіі грэка-католікаў.***

З гэтай нагоды была адслужана ўрачыстая Боская Літургія, якую ўзначальваў грэка-каталіцкі біскуп Орадэі разам з Першаярархам Украінскай Грэка-Каталіцкай Царквы кардыналам Любамірам Гузарам. У ёй удзельнічалі 20 ярархаў усходняга і лацінскага абрадаў з розных краінаў (сярод іх — Архімандрыт Сяргей Гаек, Апостальскі Візітатар для грэка-католікаў Беларусі). На багаслужбе прысутнічаў таксама вікарны япіскап мясцовай праваслаўнай Царквы Іоан Міхалтан. Падчас казаньня Апостальскі Нунцый у Румыніі Уладыка Жан Клод Перысэ выказаў спадзяваньне, што такія падзеі будуць мець месца і ў будучым.

Катэдральны сабор сьв. Мікалая быў узьведзены грэка-католікамі ў 1810 годзе. У часы камуністычнай дыктатуры храм разьдзяліў лёс усіх грэка-каталіцкіх сьвятыняў — пасьля ліквідацыі Румынскай Грэка-Каталіцкай царквы ён быў канфіскаваны ўладамі, пасьля чаго перададзены ў карыстаньне Румынскай Праваслаўнай Царкве. Пасьля падзеньня рэжыму Чаўшэску ў 1989 годзе Грэка-Каталіцкая Царква Румыніі распачала перамовы пра вяртаньне сваёй уласнасьці.

«Усе мы, якія прысутнічалі на гэтым набажэнстве, упісалі новую старонку ў гісторыю. Мы служылі разам з патрыярхам, мітрапалітамі, каталіцкімі ды праваслаўнымі біскупамі на славу Госпада», — заявіў пасьля заканчэньня першай багаслужбы грэка-каталіцкі біскуп Орадэа Віргіл Бэрча.

# «Хрысьціянская этыка салідарнасьці супраць гвалту і жорсткасьці»

Міжнародная канферэнцыя пад такой назвай праходзіла з 1 па 3 сьнежня 2005 году ў Менску. Яна арганізавана пры ўдзеле і падтрымцы Беларускага Экзархату РПЦ, Апостальскай Нунцыятуры ў Рэспубліцы Беларусь, Папскай Рады па справах Еднасьці хрысьціянаў, Міжнароднага грамадзкага аб'яднаньня «Хрысьціянскі адукацыйны цэнтр імя сьв. Мятода і Кірылы», фондаў «Renovabis», «Mundo unito», «CNEWA» і Фонду імя Конрада Адэнаўэра.

ЕЎХАРЫСТЫЯ Ў ЧАТЫРОХ ЕВАНГЕЛЬЛЯХ

# «Гэта чыніце на Мой успамін»

**(Еўхарыстыя ў Евангельлі сьв. Яна)**

***«Я — хлеб жыцьця. Хто прыходзіць да Мяне, ня будзе галодны, і хто верыць у Мяне, ня спрагнецца ніколі» (Ян 6, 35).***

Той, хто захоча знайсьці ў Евангельлі сьв. Яна словы ўстанаўленьня Еўхарыстыі, можа трохі разгубіцца. Няма ў ім такіх апісаньняў устанаўленьня, як у сінаптычных Евангельлях *(пар. Мц 26, 26-30; Мк 14, 22-25; Лк 22,19-20)*. Нягледзячы на гэта, Евангельле сьв. Яна лічыцца кнігаю, у якой Сьвятая Тайна Еўхарыстыі ўзгадваецца найчасьцей. Гэтая Сьвятая Тайна ўзгадваецца падчас цудоўнага памнажэньня хлеба, падчас дыскусіі з габрэямі, вучнямі і дванаццацьцю апосталамі. Таксама як і ў сінаптычных Евангельлях, у Евангельлі ад сьв. Яна гаворыцца, што спажываньне Цела і піцьцё Крыві Хрыста дае вечнае жыцьцё: «Хто есьць Цела Маё і п'е Кроў Маю, мае жыцьцё вечнае; і Я ўваскрашу яго ў апошні дзень» *(Ян 6, 54)*. У сваіх разважаньнях евангеліст зьвяртаецца да старазапаветнага фрагменту Выхаду з Ягіпту, калі ежаю для народу служылі манна і вада. Але тая ежа не магла збавіць народ ад сьмерці, гэта была ежа, якая сканчаецца. Вось жа ежа, якую дае Ісус Хрыстос, ніколі не сканчаецца. Сам Хрыстос сьцьвярджае, што «Цела Маё ёсьць сапраўдная ежа, а Кроў Мая ёсьць сапраўднае пітво» *(Ян 6, 55)*.

У гэтым разважаньні асаблівую ўвагу хочам зьвярнуць на элемент веры, які выступае ў кантэксьце Еўхарыстыі ў еўхарыстычнай прамове чацьвёртага Евангельля. «Хто верыць у Мяне, ня спрагнецца ніколі»,— гаворыць сам Хрыстос *(Ян 6, 35)*. У гэтым фрагменце, як і ва ўсёй прамове, больш акцэнтуецца на элеменце веры, а не на самым спажываньні ежы. Каб дасягнуць еднасьці з Хрыстом і з Богам, каб атрымаць збаўленьне і жыцьцё вечнае, трэба цалкам даверыцца Госпаду. Вера, якая дае збаўленьне, паходзіць з ініцыятывы самога Бога, а сутнасьцю веры зьяўляецца поўнае паслушэнства Яго Сыну. Той, хто спажывае сапраўдны хлеб з неба, а пры гэтым аддае Яму ўласнае жыцьцё і штодня крочыць дарогаю веры, атрымлівае збаўленьне і жыцьцё вечнае; адначасова таксама ён яднаецца са сваім Настаўнікам і Збаўцам.



• *Прыміцыйная сьв. Літургія а. Андрэя Сідаровіча ў Барысаве.*

Адкрываючы сапраўдны сэнс Еўхарыстыі, Ісус ідзе яшчэ далей і на многа глыбей. На словы з боку вучняў, іх неразуменьне, мауляў, дзіўныя гэта словы *(Ян 6, 60)*, адказвае: «Ці гэта спакушае вас? Што ж будзе, калі ўбачыце Сына Чалавечага, Які ўзыходзіць туды, дзе быў раней? Дух дае жыцьцё, цела ж не прыносіць ніякай карысьці; словы, якія Я кажу вам, гэта ёсьць дух і жыцьцё. Але ёсьць сярод вас некаторыя, што ня вераць» *(Ян 6, 61-64)*. Зьвяртаючыся да сваіх вучняў, Хрыстос указвае ім, што яны мусяць узьняцца з разуменьня Яго асобы як зьявы да духоўнага ўзроўню. Таму некаторыя адмаўляюцца ад сакраментальнай практыкі і нават адыходзяць, бо ня хочуць паглядзець на Сына Божага, на Яго Цела і Кроў духоўнымі вачыма, вачыма веры; не шукаюць больш глыбокай рэчаіснасьці.

Немагчыма правільна зразумець Еўхарыстыю, калі не ўзьняцца на духоўны ўзровень, бо Еўхарыстыя непарыўна зьвязаная з вераю ў Хрыста, якая ня ёсьць толькі сьцьверджэньне існаваньня нябачнага сьвету і рэчаў, але і своеасаблівае спалучэньне гэтых двух вымярэньняў: часовага і надпрыроднага. Больш таго, вера ў Хрыста вядзе да паглыбленьня стасункаў з Ім. Спажываньне з вераю Цела і Крыві Хрыстовых яднае чалавека з Ім: «Хто есьць Цела Маё і п'е Кроў Маю, ува Мне застаецца, а Я ў ім» *(Ян 6, 56)*. А быць адным цэлым, быць зьяднаным з Хрыстом і Богам — гэта найвялікшае жаданьне Хрыста. Еўхарыстычная прамова, што знаходзіцца ў Евангельлі сьв. Яна,— гэта ня толькі апісанае Янам служэньне Еўхарыстыі, але і заахвочваньне да шуканьня яе больш глыбокага вымярэньня, да шуканьня самога Хрыста, Яго аблічча, магчымасьці зьяднацца з Ім.

**Вячаслаў СТЭЦКО**

---

**Ераманах ЛЯВОНЦІ (Тумоўскі)**

# Пра тых, што адыйшлі

***Сёлета амаль незаўважна мінула пятнаццаць гадоў з таго часу, як у Беларусі адрадзілася Грэка-Каталіцкая Царква. Досьвед гэтых гадоў царкоўнага жыцьця, пасьля перыяду, калі наша Царква з вядомых прычынаў практычна зьнікла з беларускага далягляду, павінен быць намі абавязкова асэнсаваны.***

Найперш, гэта варта зрабіць дзеля таго, каб не паўтараць памылак, якія сталіся ў жыцьці нашых грамадаў і паасобных вернікаў за гэты час. Другая прычына, якая прымушае задумацца над нашай нядаўняй гісторыяй,— гэта турбота пра будучыню, якая выглядае яшчэ больш няпэўнай, чым на пачатку дзевяностых гадоў мінулага стагоддзя. У час, калі вельмі шмат для каго паўстае пытаньне жыцьцёвага выбару, мусім падыйсьці да яго з усьведамленьнем галоўных асноваў свайго хрысьціянскага жыцьця.

Калі ўспамінаеш гэтыя пятнаццаць гадоў жыцьця адроджанай Царквы, сярод іншага прыходзяць на памяць імёны і аблічы людзей, якіх мы сёньня не пабачым у нашых цэрквах або капліцах. Калі хто мае добрую памяць, тпрыгадае вельмі шмат асобаў. Тых што адыйшлі, напэўна, больш, чым тых, што засталіся. Чаму так сталася? Дзе гэтыя людзі сёньня? Чаму іх няма сярод нас? Гэта істотныя пытаньні, над якімі варта задумацца кожнаму, хто лічыць сябе неабыякавым да лёсу нашае Царквы.

Напэўна, для многіх людзей іхні адыход выглядаў цалкам заканамерным. Шмат хто патрапляў у нашыя грамады на шляху свайго асабістага духоўнага і жыцьцёвага пошуку. Ня ў нас гэты пошук пачаўся, і не сярод нас дасягнуў сваёй мэты. Многія з тых, каго мы бачылі, ніколі ня здолелі пераступіць мяжы, за якой перастаеш быць назіральнікам царкоўнага жыцьця, а становішся ягоным удзельнікам. Але былі таксама іншыя, тыя, якіх нялёгка забыць, якія пакінулі ў нашых сэрцах глыбокі сьлед. Мы памятаем іх як нашых братоў і сёстраў, разам з імі мы перажывалі радасьць і смутак, няўдачы і перамогі, вучыліся любіць бліжніх і насіць цяжары адзін аднаго. Нехта з іх моліцца сёньня ў іншым храме, каталіцкім, праваслаўным ці пратэстанцкім, сярод іншых вернікаў. Добра, калі ён чуецца там на сваім месцы, не шкадуе мінулага, ні на кога не крыўдуе, як гаворыцца, ён «прымірыны» са сваёй асабістай гісторыяй. Ёсьць таксама іншыя, каторыя, як кажа апостал Павел, пацярпелі «караблекрушэньне ў веры», апынуліся па-за Царквой, іх агеньчык веры, што гарэў у сэрцы, неяк незаўважна згас. Імкнучыся зразумець прычыны таго, што сталася, ня хочацца выступаць у ролі суддзі, спрабаваць вылічыць з матэматычнай дакладнасьцю, хто і ў якой меры вінаваты, дзяліць на пацярпелых, сьведкаў або вінаватых. Амаль заўсёды адзінай сапраўднай прычынай адыходу быў ГРЭХ. Мой асабісты, грэх майго брата ці сястры, грэх тых, што адыйшлі, або тых, што засталіся. Рэдка гэта было сьвядомае зло з нейкага боку, куды часьцей — проста эгаізм, жорсткасьць, нячуласьць і абыякавасьць. Вонкава мы сталі хрысьціянамі і на тым спыніліся. Тым жа, хто быў поруч з намі, гэтага



***Адсутнасьць на нядзельнай Літургіі — ці ёсьць гэта цяжкі грэх для верніка? І ці можна прыступаць да прычасьця, калі ты ня быў на нядзельнай Літургіі?***

**Кацярына К.**
*г.Пінск*

# Сьвяткаваньне нядзелі

## для хрысьціяніна — гэта знак яго веры

Яшчэ ў Старым Запавеце Госпад загадвае Народу Ізраіля асьвячаць сёмы дзень. «Сёмы (дзень) — субота супакою, прысьвечаная Госпаду» (Вых 31, 15). Асьвячэньне сёмага дня нагадвала народу Ізраіля сёмы дзень стварэньня сьвету, калі Госпад супачыў ад працы (Вых 20, 11), ды таксама вызваленьне Абранага Народу з Ягіпецкай няволі (Друг 5,15). Субота сталася для народу Ізраіля знакам запавету, які яны заключылі з Богам. Сам Ісус Хрыстос дбаў пра захаваньне суботы (пар. Мк 1, 21; Ян 9, 16), але, разам з тым, Ён нагадвае нам яе сапраўдны сэнс: «Субота дзеля чалавека, а не чалавек дзеля суботы» (Мк 2, 27).

У старажытнай Царкве склаўся звычай прысьвячаць Госпаду ня сёмы дзень тыдня (суботу), а першы — нядзелю, дзень, у які ўваскрос Ісус Хрыстос. Пра гэта піша адзін з старажытных царкоўных пісьменьнікаў сьв. Юстын Мучанік, які жыў у II стагоддзі. Сьвяткаваньне нядзелі для хрысьціяніна — гэта знак яго веры, а таксама выраз натуральнай патрэбы бачна й рэгулярна пакланяцца Богу, складаць Яму падзяку за Яго дабрадзействы.

Прысьвячэньне Госпаду нядзелі ўключае два асьпекты: устрыманьне ад працы і ўдзел у нядзельнай Еўхарыстыі. Устрыманьне ад працы ў нядзелю — гэта своеасаблівы пратэст супраць няволі працы, так часта распаўсюджанай у сучасным сьвеце, а таксама супраць культу грошаў. Акрамя таго, сьвяткаваньне нядзелі спрыяе таму, каб чалавек меў час на духоўны й фізічны адпачынак і заняткі, якія можа сам сабе абраць, на прысьвячэньне часу сям'і, культурнай, грамадзкай і рэлігійнай дзейнасьці. Ня толькі дазваляецца, але нават рэкамендуецца займацца ў нядзелю ўчынкамі міласэрнасьці, прысьвячаць сваёй сям'і час, які цяжка знайсьці ў іншыя дні тыдня. Кодэкс Канонаў Усходніх Цэркваў у каноне 881 §4 загадвае ўстрымлівацца ад працы ў нядзелі і належныя сьвяты.

Але недастаткова ў нядзелю ўстрымлівацца ад працы, бо цэнтрам хрысьціянскага сьвяткаваньня нядзелі зьяўляецца Боская Літургія, Еўхарыстыя. Ні сямейныя абавязкі, ні справы міласэрнасьці, ні нават індывідуальная малітва ня могуць замяніць яе. Да ўдзелу ў нядзельнай Еўхарыстыі нас абавязвае §1 канону 881 Кодэксу Канонаў Усходніх Цэркваў.

Катэхізіс Каталіцкай Царквы пра ўдзел у нядзельнай Еўхарыстыі гаворыць так: «Нядзельная Еўхарыстыя — гэта аснова і ўмацаваньне ўсяго хрысьціянскага жыцьця ў веры. Таму вернікі абавязаныя ўдзельнічаць у Еўхарыстыі ў дні належных сьвятаў, калі яны ня звольненыя ад гэтага абавязку з-за сур'ёзнай прычыны (напрыклад, хвароба альбо апека над малым дзіцем) альбо калі сьвятар зьняў з іх абавязак. Тыя, хто сьвядома не выконвае гэты абавязак, робяць цяжкі грэх» (ККЦ 2181).

*Такім чынам тыя, хто без паважнай прычыны прапускае нядзельную Боскую Літургію, знаходзяцца ў стане цяжкага граху. А прыступаць да сьв. Прычасьця ў стане цяжкага граху — гэта сьвятатацтва.*

Хочацца таксама нагадаць словы Сьвятога Айца Бенядыкта XVI, з якімі ён зьвярнуўся да моладзі, сабранай на Еўхарыстыі на полі Марыянфэльд падчас нядаўніх XX Сусьветных Дзён Моладзі ў Кёльне:

***«Дарагія сябры! Часамі, на пачатку, можа падацца вельмі нязручным абавязак планаваць на нядзелю свой удзел у літургіі. Але, калі вы паруліцеся, то пераканаецеся, што ўласна гэта і ёсьць сапраўдны цэнтр вольнага часу. Ня дайцеся адвесьці сябе ад ўдзелу ў нядзельнай Еўхарыстыі і дапамажыце таксама іншым у адкрыцьці яе. Вядома, дзеля таго, каб яна прыносіла радасьць, якой мы патрабуем, мусім навучыцца з кожным разам усё больш разумець яе ва ўсёй яе глыбіні, мусім навучыцца любіць яе. Абавяжма сябе да гэтага, бо варта! Адкрыем глыбіню багацьця літургіі Царквы і яе сапраўдную веліч: ня мы ладзім сьвята для сябе, гэта Сам жывы Бог рыхтуе для нас сьвята. Разам з любоўю да Еўхарыстыі вы адкрыеце таксама й таямніцу Паяднаньня, у якой міласэрная дабрыня Бога дазваляе кожны раз нанова пачынаць нашае жыцьцё»***.

**а. Андрэй КРОТ**

часта здавалася замала, яны спадзяваліся пабачыць у нас нашмат больш — прыклад для сябе і апору ў жыцьці.

Пятнаццаць, дзесяць, пяць гадоў таму большасьць з нас прыходзіла ў храм «з вуліцы», мы мусілі пачынаць хрысьціянскае жыцьцё практычна з нуля. Ва умовах, калі Царква пасьля доўгіх гадоў перасьледаваньня была амаль няздольная прапаведаваць Евангельле, Бог уласнаручна, «рукою моцнаю і мышцаю высокаю» *(Другі Закон 5, 15)*, прыводзіў нас да Сябе, да Сваёй Царквы. Адначасова з нашым прыходам на нашыя плечы клалася частка адказнасьці за царкоўную супольнасьць. Мы часта да гэтага не былі гатовыя. За нашыя грахі і памылкі прыходзілася цярпець і нам самім, і тым, што былі поруч з намі. Сёньня гэта ўжо гісторыя, стрэлку гадзінніка адвесьці назад немагчыма. Але калі пераглядаеш гэтыя старонкі, міжволі ўсплываюць у памяці словы: «Але ці добра вы будавалі, калі сядзіце бездапаможна ў хаціне напаўзруйнаванай»... *(Томас Стэрнс Эліот, «Камень»).*

Жыцьцё выявіла сябе неміласэрным да ўсяго, што было збудавана не на Хрысьце. Самыя шляхетныя нашыя пачуцьці, любоў да Бацькаўшчыны, свайго народу і роднай мовы, пастаўленыя ў цэнтр нашага царкоўнага жыцьця, не змаглі стаць для яго трывалай асновай і, напэўна, ніколі імі ня стануць. Калі думаць і спадзявацца толькі на персьпектыву зямнога разьвіцьця сваёй Царквы, на нейкім этапе абавязкова заходзіш у тупік. Абмінуць яго магчыма, толькі ацэньваючы жыцьцё з перспектывы ВЕРЫ. На кожнай літургіі мы вызнаем: «Веру ў адзіную, сьвятую, паўсюдную і апостальскую Царкву». Верыць у Царкву. Верыць у Бога, каторы ня толькі высока ў нябёсах, але і ў царкоўнай супольнасьці, у маіх братах і сёстрах. Верыць у тое, што чалавечыя слабасьці і грахі ня могуць перакрэсьліць Божае пастановы. Верыць, што Госпад мяне паклікаў уласна да гэтай Царквы, што тут ёсьць месца майго асьвячаньня і збаўленьня. Быць верным — азначае верыць і жыць адпаведна сваёй веры.

Знаёмства з гісторыяй Царквы навучыла нас, што найбольшымі выпрабаваньнямі заўсёды былі часы перасьледаваньня Царквы, калі перад абліччам сьмяротнае небясьпекі хрысьціяне мусілі або вызнаваць сваю веру, або зракацца яе. Магчыма таму, нам неяк цяжка ўсьвядоміць, што наш сёньняшні стан — гэта таксама выпрабаваньне веры, зьнешне зусім прымітыўнае і нецікавае, але яно патрабуе ад нас мужнасьці, цярплівасьці, шчырасьці ў ацэньваньні ўласнага жыцьця. Сёньня нашая няздольнасьць будаваць жыцьцё сваіх грамадаў на Хрысьце рэальна запавольвае нашае разьвіцьцё. Тыя, што ёсьць у Царкве, і тыя, што глядзяць на яе звонку, адчуваюць нетрывласьць усіх іншых асноваў, і гэтая нетрывалась становіцца усё больш відавочнай на тле трывожнай рэчаіснасьці, якая вакол нас.

Кожнаму з нас у нейкі момант даецца перажыць рэальную сустрэчу з Госпадам, хоць бы на кароткі час паспытаць Ягонае прысутнасьці і сілы. Дзякуючы гэтаму, мы робімся здольныя бачыць і распазнаваць Божую волю ў сваім жыцьці, момант, калі трэба зрабіць адпаведны выбар ці месца нашага подзьвігу і збаўленьня. Аднак з цягам часу мы прыносім у гэтыя адносіны шмат ад саміх сябе, нашыя грахі і памылкі патроху падточваюць іх. Таму раз-пораз патрабуецца выпрабоўваць сябе, ці на праўдзівых асновах мы будуем свае адносіны з Богам, знаходзіць у сабе сілы павярнуцца да ўсяго добрага, усяго Божага, што было некалі ў нашым жыцьці і што мы недзе страцілі. Сьвятое Пісаньне называе такую жыцьцёвую пераацэнку словам ПАКАЯНЬНЕ. Калі мы яшчэ не страцілі надзеі, яшчэ чакаем на Божую дапамогу, тады павінны разумець, што прыйсьцю Ягонае ласкі абавязкова мусіць папярэднічаць пакаяньне.

*Працяг на с.16* ⇨

***16-18 верасьня 2005 году ў Польшчы прайшоў VI Гнезьненскі Зьезд. У гэтым Форуме хрысьціянскіх інтэлетуалаў бралі ўдзел ня тольк каталікі розных абрадаў, але і прадстаўнікі іншых вызнаньняў ды рэлігіяў.***

І Гнезьненскі зьезд адбыўся ў сакавіку 1000 году, калі ў старажытную польскую сталіцу, каб пакланіцца мошчам сьвятога Войцеха і сустрэцца з князем Баляславам Харобрым, прыехалі імператар Отан III і царкоўныя дастойнікі на чале з папскім легатам. Тады на галаву князя Баляслава была ўскладзеная дыядэма. Польшча стала прызнанаю Еўрапейскаю дзяржаваю, а яе сталіца Гнезна — цэнтрам новае мітраполіі, у якую былі ўлучаныя новастворыныя Кракаўская, Уроцлаўская і Калабжэгская дыяцэзіі.

Польшчы: Рыма-Каталіцкай, Праваслаўнай і Евангелічна-Аўгсбургскай. Тады Прымас Юзаф Глемп, Мітрапаліт Сава і Біскуп Ян Шарэк ад імя сваіх супольнасьцяў узаемна папрасілі прабачэньня за непавагу да сумленьня, эгаізм, пыху і прыніжэньне іншых, абыякавасьць да іх пакутаў. У зьезьдзе традыцыйна бралі ўдзел і палітыкі. Прыехала на яго і моладзь з розных краінаў Еўропы.

Наступныя два зьезды адбыліся ў 2003 і 2004 гг. Іх тэмамі былі: «Quo vadis, Еўропа?» і «Еўропа духу». У V Гнезьненскім зьезьдзе бралі ўдзел прадстаўнікі ўжо 15 краінаў кантыненту, пераважна хрысьціяне. Удзельнікамі гэтага зьезду былі і беларускія грэка-каталікі *(гл. «Царква», № 1 (40), 2004).*

Сёлетні зьезд праходзіў пад дэвізам «Еўропа дыялогу: быць хрысьціянінам у плюралістычнай Еўропе». На гэты раз у Гнезна прыехалі ня

З усяго таго, што абмяркоўвалася на VI Гнезьненскім зьезьдзе, я б вылучыў 4 кругі праблемаў: 1) Еўрапейскі крызіс; 2) дыялог хрысьціянаў і нехрысьціянаў; 3) хрысьціянскае адзінства; 4) Еўрапейская будучыня.

I

***«ЕЎРОПА ПЕРАЖЫВАЕ КРЫЗІС»,*** — сказаў у сваім рэфераце архібіскуп Мушынскі. Дакладна ён сказаў, што Еўропа перажывае крызіс тоеснасьці. Меў ён на ўвазе і працэс Еўрапейскае інтэграцыі, асабліва фіяска Еўрапейскае канстытуцыі. Вета, якое наклалі на канстытуцыю грамадзяне Францыі і Нідэрляндаў, стала адчувальным ударам, але не па самой ідэі Еўрапейскае інтэграцыі, а па яе вектары.

Супраць канстытуцыі галасавалі тры катэгорыі грамадзянаў: ультраправыя, хрысьціяне і левыя (згодзімся, што і сярод ультраправых, і

Анатоль СІДАРЭВІЧ

# Еўропа дыялогу

## Нататкі з VI Гнезьненскага Зьезду

Праз 997 гадоў — у тысячную гадавіну сьмерці сьв. Войцеха — адбыўся II Гнезьненскі зьезд, ініцыятарам якога быў мітрапліт Гнезьненскі Генрык Мушынскі. У старажытную польскую сталіцу прыехалі Біскуп Рыму Ян Павел II і прэзідэнты сямі дзяржаў Цэнтральна-Усходняй Еўропы: Літвы, Нямеччыны, Польшчы, Славакіі, Вугоршчыны, Украіны і Чэхіі. З гэтай нагоды ў 70-тысячны горад прыйшлі і прыехалі 300 тысячаў пілігрымаў.

III Зьезд (2000 г.) адбыўся з нагоды 2000-годдзя хрысьціянства. На гэты раз сустрэліся кіраўнікі трох асноўных хрысьціянскіх Цэркваў



толькі каталікі, праваслаўныя і пратэстанты: у ім бралі ўдзел таксама юдэі і мусульмане. У зале можна было бачыць дастойнікаў рэлігійных супольнасьцяў, вядомых палітыкаў, навукоўцаў, але значна больш было «простых людзей».

Што да Беларусі, дык на гэтым паважным Форуме, на жаль, ня быў заўважаны ніводзін біскуп з Беларусі. Не вылучаліся й сьвецкія рыма-каталікі. Стараньнем айца Архімандрыта Сяргея (Гаека) у Гнезна трапіла невялічкая дэлегацыя вернікаў Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы з а. Андрэем Сідаровічам (MIC). Дэлегацыя УГКЦ была большая, але толькі на кароткі час у зале зьявіўся грэка-каталіцкі біскуп Уроцлаўскі і Гданьскі Уладзімір.

З Беларусі на Форум прыехалі таксама сьвецкія браты і сёстры праваслаўныя, але, як нам сказалі, без блаславеньня духоўных уладаў.

Зьезд віталі Біскуп Рыму Бенядыкт XVI і Патрыярх Канстанцінопаля Барталамей I.

сярод левых таксама ёсьць хрысьціяне). Калі ультраправыя бачылі ў канстытуцыі пагрозу нацыянальнаму суверэнітэту, калі хрысьціяне не маглі згадзіцца, што ў канстытуцыі няма згадкі пра хрысьціянскія карані Еўрапейскае цывілізацыі, то левых абурала сацыяльная скіраванасьць канстытуцыі. І тут мы прыходзім да цікавай высновы: на рэферэндуме хрысьціяне і левыя выступілі супольна таму, што канстытуцыя прапаноўвала Еўропе неаліберальную мадэль дэмакратыі і эканомікі.

Цягам паваеннага часу сацыялісты і хрысьціянскія дэмакраты стварылі сацыяльныя дзяржавы, дзяржавы дабрабыту, паклаўшы ў іх аснову прынцып салідарнасьці. Калі зірнуць на Нямеччыну, дык там бацька «нямецкага дзіва» хрысьціянскі дэмакрат Людвіг Эрхард ад самага пачатку паставіў задачу стварэньня сацыяльнай эканомікі. Такі працяг атрымала так званая Рэйнская мадэль, калі дзяржава выступае пасярэднікам паміж інтарэсамі працы і капіталу.

Такога ж курсу, што і іх калегі ў Нямеччыне, прытрымліваліся хадэкі ды сацыялісты ў Італіі. У Швецыі, якою з 1932 г. кіравалі сацыял-дэмакраты, быў наладжаны стабільны дыялог прадпрымальнікаў і прафсаюзаў, вынікам якога і стаў «шведзкі сацыялізм». Гэтая мадэль стала ўзорнаю, і таму можна гаварыць пра «скандынаўскі сацыялізм» (Нарвегія, Фінляндыя, Данія, Ісландыя). У Францыі разьвіцьцё ішло трохі інакш, але вынікам яго таксама стала дзяржава дабрабыту, сацыяльных гарантыяў.

І вось Еўропе прапанавалі новую мадэль — неаліберальную. Зьвяртаю ўвагу, што на чале канвенту, які пісаў



*• На Гнезьненскім Зьездзе інтэлектуалаў 16-18.09.2005.*

канстытуцыю, стаяў ліберал (значыць, чалавек правых перакананьняў), экс-прэзідэнт Францыі Валеры Жыскар д'Эстэн. Кіруючыся славутаю палíткарэктнасьцю, ён і ягоныя аднадумцы не ўключылі ў канстытуцыю палажэньне пра хрысьціянскія карані Еўропы. Бо калі ўключаць згадку пра хрысьціянства, дык, паводле іх, трэба ўспомніць і Грэцыю, і Рым, і юдаізм, і іслам... Да таго ж Царква прынесла Еўропе не адно карысьць... Такая была логіка развважаньняў лібералаў і некаторых сацыялістаў. Але гэтага мала: лібералы і схільныя да кампрамісу з імі правыя сацыялісты прапанавалі Еўропе ліберальную дэмакратыю і ліберальную мадэль сацыяльна-эканамічнага ладу, пры якой хрысьціянскаму і сацыялістычнаму прынцыпу салідарнасьці адводзілася б мінімальнае значэньне. Груба кажучы, пры пасьлядоўным ажыцьцяўленьні ліберальных ідэяў дзеяньне прынцыпу салідарнасьці зводзілася б да начлежак ды бясплатных абедаў. Зноў у Еўропе зьявілася б спадчынная беднасьць і ўсё, што з ёю спалучана...

Вось супроць гэтага паўсталі і левыя, і правыя. Левыя, якія стаяць лявей ад афіцыйных колаў Сацыялістычнай партыі Францыі і Партыі працы Нідэрландаў, і правыя, якія вызнаюць прынцып салідарнасьці. Сваё слова сказала сацыяльная салідарнасьць хрысьціянаў і левых, пра якую піша С'юзан Уоткінз з Пенсільванскага унівэрсытэту *(гл.: «Arche», № 5, 2005)*. Сваё слова сказала хрысьціянскае і левасацыялістычнае непрыняцьце ліберальнае абсалютызацыі свабоды, калі свабода вядзе да рынкавай стыхіі і паніжэньня чалавека. Апрача таго, хрысьціяне не прынялі ліберальнага разуменьня свабоды, якое вядзе да адмаўленьня духоўна-экзыстэнцыйных каштоўнасьцяў.

І калі пра сацыяльна-эканамічны аспект крызісу Еўрапеізму на Гнезьненскім зьезьдзе гаварылася мала, дык духоўнаму крызісу, які выкліканы ліберальным разуменьнем свабоды, было нададзена шмат увагі. І тут нельга не адзначыць рэферат гнезьненскага мітрапаліта.

Архібіскуп Мушынскі адзначыў чатыры выклікі, з якімі сустрэлася Еўропа: 1) паніжэньне годнасьці чалавека; 2) страта сэнсу сакрум; 3) нэгацыя традыцыйнага разуменьня шлюбу; 4) фальшывае разуменьне свабоды.

1) Паніжэньне годнасьці чалавека набыло такую форму, як нежаданьне ахвяраваць сябе іншаму, нават роднаму чалавеку. Геданізм набыў у Еўропе такія маштабы, што стаў пагрозаю для яе існаваньня. Дарэчы, пра гэтую слабасьць Еўропы і магчымыя ваенна-палітычныя наступствы яе ўвесь час піша Збігнеў Бжэзінскі. Што ж да духоўна-экзістэнцыйнага аспекту праблемы, дык геданізм, або, як сказаў мітрапаліт Мушынскі, служба чалавека самому сабе, вядзе да абортаў, да генетычных эксьперыментаў, да апраўданьня эўтаназіі.

2) Чалавек ня можа абыходзіцца без сьвятога, без сакральнага. Хрысьціянін лічыць сьвятым і пакланяецца трансцэндэнтаму. І калі нехта адкіне трансцэндэнтнае, кажа мітрапаліт Мушынскі, сакрум прыйдзе з іншае крыніцы. Якія наступствы гэтага, сказаць няцяжка. Таму задача вернікаў — хрысьціянаў і нехрысьціянаў — абараняць аўтэнтычную сьвятасьць.

3) Ці мае дзіця права на маці і бацьку? — папытаўся мітрапаліт. Калі мае, то мы павінны прызнаць, што шлюб ёсьць саюз мужчыны і жанчыны. Ад адказу на пытаньне, што такое шлюб, залежыць адказ на пытаньне: быць ці ня быць нашай будучыні.

4) Успомнім, што пісаў апостал Павел пра свабоду. Гэта свабода ад граху *(пар.: Рым 6:18-23)*, ад сапсуцьця *(пар.: Рым. 8:21)*, гэта — асабліва падкрэсьлім — свабода не патураць целу, «але любоўю духа ўспамагаць адзін другога» *(Гал 5:13)*. Нагадаўшы словы апостала пра духоўны, гуманістычны аспект свабоды, мітрапаліт Мушынскі падкрэсьліў, што фальшывая свабода ёсьць насамрэч няволяю, анархіяй.

Такім чынам, мітрапаліт завяршыў свой рэферат тым, з чаго пачаў: геданізм тоіць у сабе вялікую небясьпеку Еўрапейскай будучыні.

Меркавалася — і задоўга да пачатку зьезду афішавалася, — што Расейскую Праваслаўную Царкву ў Гнезьне будзе прадстаўляць мітрапаліт Смаленскі і Калінінградзкі Кірыла. Аднак замест яго прыехаў япіскап Венскі і Аўстрыйскі Іларыён. У сваім рэфераце ўладыка гаварыў, што ў Еўропе існуе дзьве гуманістычныя тэорыі, якія маюць два вытокі: гуманізм хрысьціянскі і гуманізм ліберальны. Паколькі каштоўнасьці, пра якія ішла гаворка, маюць значэньне для лёсу чалавецтва, сказаў япіскап Іларыён, патрабуецца дыялог паміж рэлігіямі і прадстаўнікамі лібералізму.



• *Падчас адной з дыскусіяў на Гнезьненскім Зьезьдзе.*

Еўрапейскім каштоўнасьцям быў прысьвечаны адмысловы дыялог, у якім бралі ўдзел правінцыял польскіх дамініканаў Мацей Земба, еўракамісар Данута Хюбнэр, былы прэм'ер-міністр Польшчы, а цяпер амбасадар пры Апостальскай Сталіцы Ганна Сухоцкая, міністар культуры Італіі Рока Буцільёнэ, дырэктар Цэнтру вывучэньня ісламу пры ўніверсітэце ў Глазга Мона Сідыкі, старшыня фундацыі імя Сьцяпана Батуры Аляксандр Смоляр і старшыня Сусьветнай Рады ізраільскага інстытуту Яд Вашэм Шэвах Вэйс.

Як адзначыла Г.Сухоцкая, ляіцызм не адхіляе хрысьціянства — ён адхіляе ўсе рэлігіі. А рэлігія, сказаў Ш.Вэйс, зьвязана з маральлю. Атрымліваецца: калі не запатрабаваная мараль — не патрабуецца і рэлігія. А між тым у цяперашнім сьвеце ёсьць неабходнасьць вяртаньня да тых маральных каштоўнасьцяў, якія прапаведуюць рэлігіі.

Калі ўдзельнікаў дыялогу папрасілі пералічыць Еўрапейскія каштоўнасьці, Ш.Вэйс і Р.Буцільёнэ адзначылі, што гэтыя каштоўнасьці ўнівэрсальныя. Еўракамісар Д.Хюбнэр вылучыла ўкаранёную ў хрысьціянстве павагу да годнасьці чалавека. Адказ Р.Буцільёнэ быў складаны: хрысьціянства — гэта рэлігія любові, але любоў прапаведаваў і Сакрат, адсюль вынікае, што быць Еўрапейцам — ведаць Сакрата і Хрыста. Канцэптуальна адказаў Мацей Земба (ОП): Еўрапейскія каштоўнасьці — гэта прынцып роўнасьці людзей, прынцып разумнасьці людзей, прынцып правоў і абавязкаў ды супольнага дабра, прынцып падзелу і раўнавагі ўладаў.

Паўстала пытаньне: ці павінна Царква толькі абвяшчаць ісьціны? Мацей Земба у гэтай сувязі заўважыў: накінутая ісьціна траціць вартасьць, яна набывае цану, калі засвойваецца праз дыялог і асэнсоўваецца. Ён згадзіўся з думкаю Ш.Вэйса, што Еўрапеец мусіць быць адкрыты і талерантны да ўсіх рэлігіяў і ўсіх народаў.

## II

***ДЫЯЛОГ ХРЫСЬЦІЯНАЎ І НЕХРЫСЬЦІЯНАЎ*** распадаецца на два дыскурсы: 1) дыялог рэлігійных людзей з нерэлігійнымі і 2) вызнаўцаў Хрыста найперш з пасьлядоўнікамі Майсея і Мухамеда.

1. Адказ на пытаньне, якое паставіў філосаф Лешак Калакоўскі («Ці жывем мы ў постхрысьціянскім сьвеце?»), гучыць адназначна: не. І ўсё ж тэма аднаго з круглых сталоў была сфармуляваная так: «Хрысьціянская культура — паміж адраджэньнем christianitas і хрысьціянскім гета».

Дамініканін Габрыэль Нісім (Nissim) канстатаваў факт: 2/3 французскіх дзяцей ня ведаюць рэлігіі, не наведваюць урокі. І вывеў: хрысьціяне цяпер меншасьць у Еўропе, а таму нельга гаварыць пра хрысьціянскую культуру; можна казаць, што маюцца пэўныя хрысьціянскія элементы ў культуры. Як удакладніў біскуп Евангелічна-Рэфармацкай Царквы ў Польшчы Марак Ідзэбскі, мы жывем у плюралістычным сьвеце, і культура плюралістычная.

Як павінны паводзіцца хрысьціяне ў секулярызаваным сьвеце? Ці павінны хрысьціяне яднацца супраць атэізму і атэістаў? Біскуп Марак Ідзэбскі адказаў, што матывацыяй да хрысьціянскай еднасьці ня можа быць нянавісьць.

Габрыэль Нісім (ОП) ня быў песімістам. «Калі мы кажам, што хрысьціянству няма месца ў Еўропе, гэта няпраўда, — заявіў ён. — Калі кажам, што няма хрысьціянскіх палітыкаў, гэта няпраўда». Зыходзячы з тэзісу, што культура павінна служыць, прамоўца сказаў, што і Царква павінна служыць. У сьвеце, у якім штораз больш індывідуалізму, трэба ствараць чалавечыя супольнасьці дзеля ўзаемадапамогі. Гэтую думку падтрымаў прарэктар Украінскага каталіцкага ўніверсітэту Міраслаў Марыновіч і дадаў: хрысьціянства не павінна быць прыязным гэтаму сьвету. Як і на пачатку, яно прызначана для апазіцыі, бо Госпад быў блізкі таму, хто цярпеў, а не таму, хто панаваў. У гэтай сувязі прыводзіўся гістарычны прыклад. Слабыя пазіцыі хрысьціянства ў Францыі і моцныя пазіцыі ў Ірландыі і Польшчы тлумачацца тым, што ў Францыі Царква была падначалена дзяржаве і адстойвала інтарэсы трону, а ў Ірландыі і Польшчы яна адстойвала нацыянальную свабоду і правы чалавека. *Праця́г на с.14* ⇨




**Да 300-ых угодкаў мучаніцкай сьмерці Полацкіх манахаў-базыльянаў**

# Полацкая трагедыя 1705 году

*(Гістарычны нарыс)*

*«Каб на Літве, акрамя маёй і тваёй, не было ніякай іншай веры»*
*Пётр I — віленскаму біскупу (Вільня, ліпень 1705 г.)*

**У другой палове 1705 году краіны Еўропы абляцела жахлівая вестка: «Жорсткае забойства на Белай Русі! Ахвяры — безабаронныя служкі Бога, манахі ордэну Васіля Вялікага. З імі расправіліся ў хрысьціянскай сьвятыні — Сафійскім саборы ў Полацку. Учыніў расправу каранаваны забойца — цар Пётр I.**

Пралог гэтай трагедыі сягаў у XVII стагоддзе. Пашырэньне Уніі ў Беларусі і Украіне непакоіла Маскву. Унія ўскладняла ёй «зьбіраньне рускіх зямель», пазбаўляла ўлады над Кіеўскай мітраполіяй. У сваім руху на Захад Масква апелявала да пачуцьцяў рэлігійнай супольнасьці. Зьвяртацца да рэлігійных пачуцьцяў у тыя часы было намнога зручней, чым да ідэяў нацыянальнай, культурнай, гістарычнай супольнасьці.

«Уніятам ня быць» — пра гэта катэгарычна заявіў ужо другі з дынастыі Раманавых, цар Аляксей Міхайлавіч, калі ў 1655 годзе яго войска захапіла Беларусь.

Падтрымліваючы лаяльнае да сябе праваслаўе, Масква стала распальваць на акупаваных беларускіх землях антыўніяцкія настроі. Паводле дамовы з 1686 году Рэч Паспалітая падпадала пад яе пратэктарат у царкоўных пытаньнях. Расея дамаглася тады сабе права апекі над праваслаўнымі аднаверцамі ў Беларусі і Украіне, а тым самым — права на супрацьдзеяньне любому поступу царкоўнай уніі.

Але ўтрымліваць гэтыя землі ў сферы расейска-праваслаўнага ўплыву станавілася ўсё цяжэй. Праваслаўе раставала тут, як веснавы сьнег, і спыніць гэтага працэсу не маглі ані пункты «вечнага міру», ані падпарадкаваньне Кіеўскай мітраполіі ў тым жа 1686 годзе маскоўскаму патрыярху.

На мяжы XVII-XVIII стагоддзяў тры праваслаўныя япархіі ў Рэчы Паспалітай прынялі Унію: Пярэмышльская, Львоўская, Луцкая. Як можна такое дапусьціць?! Гэта ж закранала дзяржаўныя інтарэсы Расіі, бо зьмяншала тут колькасьць яе прыхільнікаў. Гэта біла па амбіцыях цара Пятра I, які хацеў адзін вяршыць канфесійны лёс Беларусі і Украіны. Абураная Масква распачала дыпламатычную інтэрвенцыю ў «справе ўніятаў», пратэстуючы перад каралём Аўгустам II супраць «парушэньня» міжнароднага пагадненьня. Рыма-каталіцкія місіянеры з Еўропы дарэмна цешылі сябе ілюзіяй схіліць чарговага Раманава да Уніі. Тым больш, варожыя намеры цара да яе падаграваў ляшчэ й маскоўскія ярархі.

Ішла Паўночная вайна. Напярэдадні чарговай ваеннай кампаніі Пётр I сабраў у сябе патрыярха, мітрапалітаў, япіскапаў. «Я зноў вяду наша войска на шведаў, — пачаў ён размову.— На сьмерць ідуць найлепшыя сыны Айчыны. Мы моцныя зброяй, але слабыя духам. Нам трэба Божае блаславеньне».

«Мы можам даць табе блаславеньне,— сказаў патрыярх.— Але наш Усемагутны Госпад Бог патрабуе ад цябе большага! Ці згодны ты выконваць Божы загад?» — «Так, кажы, які!»

Умова гэтая цару спачатку прыйшлася не да густу, бо патрыярх азадачыў: «Ты павінен выкараніць унію ў Белай Русі». Цар запярэчыў, што ўніяты знаходзяцца пад апекай Папы Рымскага. Але аргументы ярархаў цара пераканалі: «Ці ж ты, гасудар, ня бачыш, што ўніяты апанавалі вялікія япархіі і перадалі іх уладзе Рымскага пантыфіка. Іх посьпехі могуць зруйнаваць нашу праваслаўную веру ў Літве і ўсёй Рэчы Паспалітай!»

Калі высокія царкоўныя саноўнікі выходзілі, цар задумаўся: «Гэта хутчэй блаславеньне на барацьбу з уніяй, чым са шведамі... Але ўсё ж добра, што нашыя дзяржаўныя інтарэсы супадаюць з жаданьнямі Бога!»

Так у Маскве падпісалі сьмерць Уніі...

У чэрвені 1705 году Пётр I з сваёй сьвітай накіроўваўся ў Прыбалтыку. Шлях пралягаў праз Віцебск і Полацак, каля якога ўжо стаяла лагерам шматтысячнае маскоўскае войска на чале з князем Аляксандрам Меншыкавым. Мясцовыя жыхары несьлі на сабе ўсе выдаткі на яго ўтрыманьне.

Была добрая нагода адпомсьціць уніятам за іх «адступствы», у тым ліку і за апошнія, за тое, што людзей у «рымскую веру зводзяць». Праязджаючы праз Віцебск, цар загадаў сячы і нішчыць абразы з выявай Язафата Кунцэвіча. Выхваляўся, што спаліць астанкі ўніяцкага сьвятога. Тады захопнікі разьбілі і скінулі ў Дзьвіну помнік полацкаму архібіскупу, усталяваны ў Віцебску на месцы, дзе было скінута ў раку зьнявечанае мёртвае цела мучаніка.

Гэтыя трывожныя весткі даходзілі таксама да палачанаў. Ды й самыя расейскія афіцэры і салдаты ня раз папярэджвалі ўніятаў: «Чакайце, будзе вам бяда!»

Нічога добрага ад наведваньня расейскім правіцелем іх гораду полацкія базыльяне не чакалі. Асабліва боязна ім было за срэбную труну з астанкамі сьвятога Язафата. Манахі дамовіліся з літоўскім канцлерам Каралем Радзівілам, што той схавае яе, а пасьля вайны ў цэласьці верне назад.

Напярэдадні прыезду Пятра I труну вывезьлі з Сафійскага сабору ў Жыровіцкі манастыр. Пазьней, калі і туды набліжалася маскоўская армія, мошчы сьвятога перавезьлі ў Белую на Падляшшы, ва ўладаньні Радзівілаў, і памясьцілі ў замкавай капліцы. У Полацак яны болей не вярнуліся, бо Радзівілы пажадалі мець гэтыя сьвятыя рэліквіі ў сваёй уласнасьці. Пазьней у Сафійскі сабор была перададзена толькі невялікая частка мошчаў левай рукі сьвятога. Сапегам, якія, пачынаючы са знакамітага канцлера ВКЛ Льва Сапегі, лічылі сьв. Язафата апекуном свайго роду, вярнулі толькі срэбны саркафаг з каштоўнасьцямі. Пакрыўджаныя Сапегі патрабавалі вярнуць і мошчы, але не змаглі дамагчыся гэтага нават сілай.

...30 чэрвеня (11 ліпеня па новым стылі) 1705 году цар Пётр прымаў у Полацку віншаваньні ад сваіх афіцэраў і генералаў, ад князёў з нагоды дня сьвятых апосталаў Пятра і Паўла. Гасьцей частавалі напоямі. Разьвесяліўся і імяніньнік, у гонар якога полацкія вяльможы вечарам ладзілі банкет.

Не чакаючы царскага банкету, спадручны цара Пятра Аляксандр Меншыкаў вырашыў прайсьціся па ўласных справах да месца свайго кватараваньня. Але не дайшоў...Па дарозе збочыў у сьв. Сафію.

У храме ішло вячэрняе богаслужэньне. Сьвятар правіў казань на хвалу сьвятога апостала Пятра. Гаварыў пра яго першынства перад апосталамі, што ён ёсьць галава Царквы, а папы рымскія — яго пераемнікі. Гаварыў пра вяршэнства рымскага патрыярха над іншымі патрыярхамі. Убачыўшы ў царкве Меншыкава, сьвятар пачаў хваліць царкоўную ўнію.

— Пажджы, растакая твая мать!— раззлаваны Меншыкаў кінуўся да цара. Той, ужо на добрым падпітку, спытаўся ў Меншыкава, дзе быў. А калі даведаўся, што ён ва ўніяцкай царкве слухаў казань, запытаўся:

— Какава была проповидь? На пользу ли нам, христианам? (*Выказваньні цара і яго спадручных узятыя з гістарычных крыніц; прыводзяцца на іх мове.— Аўтар*)

— Какава польза, понеже тот казнадей рымскую и униацкую веру восхвалял, святую же благочестивую хулил и по премногу уничыжал!

Пятра, даўно раззлаванага на ўніятаў, гэтыя словы і зусім разьюшылі. У кампаніі з Меншыкавым і ў акружэньні афіцэраў ён накіраваўся ў Сафійскі сабор.

Набажэнства ўжо скончылася. Вернікаў у Сафіі не было, але сабор яшчэ быў адчынены. У ім маліліся шасьцёра сьвятароў і манахаў.

Царкву напоўнілі расейскія афіцэры. Цар гучна запатрабаваў наладзіць яму экскурсію па храме. Вікарый Канстанцін Заячкоўскі стаў паказваць Сафію. Спыняліся пры кожным алтары. Сьвятар тлумачыў паходжаньне абразоў. Пётр I не хаваў сваёй раздражнёнасьці, шукаючы зачэпку для сваркі. Паводзіўся ў храме разьвязна. Небясьпека вісела ў паветры.

Падышлі да алтара сьвятога Язафата, які вянчвала па-майстэрску зробленая ягоная драўляная скульптура з сякераю, усаджанай у галаву, што нагадвала пра страшную мучаніцкую сьмерць, якую прыняў Полацкі ўладыка.

— Какой ета сьвятой? — спытаўся Пётр.

— Сьвяты мучанік Язафат,— адказаў вікарый.

— Да хто ево замучыл?

— Схізматыкі праклятыя!

— Да как они верят? — не ўтаймоўваўся цар.

— Так вераць, як вы верыце.

Шалёны агонь загарэўся ў вачах цара Пятра. Манаршы кулак абрынуўся на сьвятара. Удар прыйшоўся ў зубы. Заліты крывёю вікарый паляцеў на падлогу. На бедалагу накінуўся царскі сабака. Цар пачаў біць ляжачага кіем па галаве. Потым шабляй паадцінаў яму вушы.

Гледзячы на свайго разьюшанага ўладара, яго акружэньне пачало расправу з іншымі манахамі. Першай ахвярай стаў базыльянскі прапаведнік Тэафан Калбячынскі. Выхапіўшы палаш, Меншыкаў адным ударам забіў яго.

Айцец Клімент, новы полацкі прапаведнік, пабег у манастыр, каб паведаміць архімандрыту Якубу Кізікоўскаму пра тое, што адбываецца ў катэдры.

А на другім баку царквы афіцэры ўжо білі кулакамі, калолі штыкамі, сяклі шаблямі, таптапі, рвалі шпорамі рэгента царкоўнага хору Якуба Кнышэвіча, які праз нейкі час памёр ад ран, і Мялеція Кандратовіча. Пасечаны афіцэрамі і памылкова залічаны імі да мёртвых, манах Язэп Анкудовіч выжыў, каб стаць сьведкам той жудаснай расправы.

Па сьвятыні паплылі крывавыя ручаі. Трохі апамятаўшыся, цар выйшаў з царквы, сеў на зямлю і стаў абціраць аб траву аблітыя крывёй рукі.

Але на гэтым расправа ня скончылася. Царская сьвіта ўварвалася ў манастырскі будынак і пачала зьбіваць астатніх манахаў. Двум з іх удалося ўратавацца ўцёкамі. Чатыры чалавекі, якія схаваліся ў сутарэньнях, былі зьняволены ў вязьніцы.

Вярнуўшыся з той крывавай экскурсіі, цар піраваў далей...

Целы забітых перацягнулі з царквы да нейкай хаткі ля званіцы. Канстанціна Заячкоўскага і архімандрыта Якуба Кізікоўскага — чалавека вельмі высокаадукаванага (атрымаў адукацыю ў Рыме) і здольнага (раней стаяў на чале Віленскага манастыра) — царскія служкі забралі ў свой лагер. Іх усю ноч катавалі, каб дазнацца месца схову манастырскіх скарбаў і мошчаў сьвятога Язафата, схілялі адрачыся ад сваёй веры.

— Я сёньня Богу майму склаў ахвяру і цела Хрыстова прыняў, гатовы памерці і памру за адзінства веры сьвятой праваслаўнай, — быў адказ базыльянскага вікарыя. На двары стаяла раніца 12 ліпеня. Калі пераканаліся, што ўсе спробы дамагчыся свайго ад манахаў дарэмныя, пачалі ўзводзіць для іх на тэрыторыі Спаскага манастыра шыбеніцу.

Пётр I, калі прачнуўся, папракаў Меншыкава, што падбухторыў яго на такую справу:

— Аляксандар, права, худа мы вчарась здзелали, ... в другой раз не данаси мне ничаво.

...Запозненыя згрызоты сумленьня...

Тым часам, аднак, царавы ваякі майстравалі шыбеніцу — высокую, каб было відаць здалёк. Айца Канстанціна Заячкоўскага прымусілі несьці да месца кары адцятыя вушы на выцягнутых руках.

Аднаго манаха ня вытрымала вяроўка. Ён, яшчэ жывы, упаў на зямлю, апусьціўся пад шыбеніцай на калені і стаў маліцца.

— Што з ім рабіць?— паслалі ганца да цара Пятра.

— Кінуць манаха ў вогнішча, бо з гэтага нягодніка будзе другі Язафат, калі яго не спаліць,— быў цараў загад.

Целы іншых ахвяраў таксама спалілі. Попел разьвеялі над Дзьвіною, каб уніяты не прызналі іх за пакутнікаў і сьвятых, а магілы каб ня сталі месцам паломніцтва.

Пасьля гэткай «перамогі» над Уніяй у Полацку Сафійскі сабор і базыльянскі манастыр аддалі на разрабаваньне. Частка іх маёмасьці была перададзена цару, частка — у маскоўскую казну. Праваслаўнае духавенства адмовілася прыняць храм у сваё ведамства. Тады яго зачынілі на замок, і Пётр I сам уласнай пячаткай запячатаў дзьверы. Галоўную беларускую сьвятыню зрабілі вайсковым складам.

— Няхай і надалей не чакаюць літасьці,— заявіў цар Пётр беларускай шляхце, сабранай у Полацку. Ён намерваўся расправіцца з галоўнай цьвярдыняй Уніі ў Беларусі — Жыровіцкім манастыром. А ўніяцкаму мітрапаліту Льву Заленскаму выказаў такое царскае слова: « Або вырачыся сваёй веры, або будзеш павешаны».

...Стойкасьць у веры і рэлігійная нецярпімасьць... Нечуваная ў беларускай гісторыі нянавісьць галавы расейскага ўраду да Уніяцкай Царквы.

Царскае слова не разышлося са справай. Змрочныя часы наступілі тады для ўсіх прыхільнікаў Уніі, галоўная віна якіх была ў тым, што іх вера разыходзілася з маскоўскім праваслаўем. «Няшчасныя манахі, ашаломленыя горам настаяцелі, архімандрыты, япіскапы і паства ўніяцкая ...ня ведаюць, куды зьвярнуцца ў гэты бурны час з мошчамі блаславёнага мучаніка Язафата, з цудатворнымі абразамі найслаўнейшых манастыроў, з іх сьвятымі акладамі... Тут — масквіцянін, там — казак, па ўсёй краіне — раскольнікі і натоўпы драпежных дывізіёнаў,» — пісаў тады ўніяцкі мітрапаліт Кіеўскі Леў Заленскі. Засьпяшаліся ганцы ў Вільню, Варшаву й Рым з просьбамі аб паратунку і заступніцтве.

Між тым полацкая трагедыя набывала розгалас у Еўропе. Дзікунскае забойства ў сьвятой Сафіі моцна дыскрэдытавала творцу новай Расеі ў вачах каталіцкага сьвету. ...Каранаваны кат... Яго сваволье ў дзяржаве Аўгуста II падрывала і ягоны манаршы аўтарытэт.

Афіцыйная расейская прапаганда спрабавала прыкрыць зладзейства Пятра I. Каб абяліць яго ў вачах еўрапейскай грамадзкай думкі, у ліпені 1705 году ў Вільні быў абвешчаны «Мемарыял Пятра I». Ён абвінавачваў полацкіх базыльянаў у патаемным ліставаньні са шведамі і іх саюзьнікамі з лагеру Сапегаў, у антыцарскіх выпадах падчас казаньняў. Урэшце, у непачцівасьці да манарха, калі той зайшоў у царкву, і супраціве «людзям Яго Царскае Вялікасьці..., на што тыя, раззлаваўшыся, самі пачалі гэтых ліхадзеяў без шкадаваньня секчы».

У Рыме пра трагедыю ў Полацку добра ведалі ўжо ў кастрычніку 1705 году.

«Сьвятлейшы князь маскоўскі,— пісаў Папе Рымскаму Кліменту XI у жніўні 1705 году кіеўскі мітрапаліт Леў Заленскі,— калі зьявіўся на дапамогу Польшчы, узбудзіў жорсткае ганеньне на рускіх уніятаў, умярцьвіў і ўчыніў усялякае катаваньне 9 манахаў у Полацкай царкве. [...] Ён пагражае вынішчыць уніятаў на Русі і пры гэтым абавязвае сябе бязбожнай клятвай».

Мітрапаліт заклікаў папу хадайнічаць перад каралём і вяльможамі Рэчы Паспалітай, каб тыя ўзялі ўніятаў пад сваю апеку і выратавалі ад гэтага шаленства. Адказам былі некалькі лістоў папы да розных асобаў, у тым ліку да польскага караля Аўгуста II. 27 верасьня 1705 году нота з асуджэньнем жорсткай выхадкі супраць базыльянскіх манахаў была перададзена таксама расейскаму паслу ў Дрэздэне.

Полацкія пакутнікі... Пяцёра з 700 тысячаў чалавек, якіх не далічылася Беларусь пасьля той вайны. «Уніяты гэтых пяцярых манахаў уважаюць за сьвятых і ў сьвятцы, ці ў царкоўны каляндар, упісалі», — занатаваў у 1708 годзе магілёўскі храніст.

Старажытная полацкая Сафія разьдзяліла трагічны лёс сваіх служыцеляў. 1 мая 1710 году там прагучаў моцны выбух. Храм узьляцеў у паветра. Гэта князь Меншыкаў напярэдадні адыходу расейскіх войскаў загадаў: адбіраць усё, каб Уніі нічога не засталося на будучыя часы. Паводле яго загаду падклалі тады порах пад Сафію.

Трыццаць гадоў нагадвалі абпаленыя руіны пра тую вайну. Аж пакуль у 1750 годзе катэдру не адбудаваў у навамодным, як на той час, стылі «віленскага барока» полацкі ўніяцкі архібіскуп Фларыян Грабніцкі. Такой яна стаіць і сёньня.

22 лістапада 1710 году Апостальская Сталіца публічна кінула расейскаму правіцелю, хай сабе і пераможцу пад Палтавай, цяжкае абвінавачаньне за перасьлед Уніяцкай Царквы. Гэта быў ці не адзіны ў тагачаснай Еўропе голас выразнага асуджэньня Пятра I, стваральніка Расейскай імперыі, якога ўжо баяліся і лічылі за лепшае не сварыцца з ім і якога пазьней так услаўлялі гісторыкі. Крывавыя ўчынкі цара на беларускай зямлі яны абышлі маўчаньнем. Умаўчалі, каб захаваць на вякі славу найвялікшага з Раманавых...

**Сяргей МАРОЗАЎ**

*1-10 ліпеня 2005 году*

# КАРАЛЕВА беларускага народу

*Сёлета споўніліся 275-ыя ўгодкі каранацыі Жыровіцкага абраза Маці Божай*

***Абраз Маці Божай Жыровіцкай стаў адной з найбольшых хрысьціянскіх сьвятыняў беларускага народу, якую ўшаноўваюць як праваслаўныя, так і католікі візантыйскага і лацінскага абрадаў. Маці Божая пасапраўднаму глыбока яднае ўсіх нас у пашане да Яе і Яе Сына і Госпада нашага Ісуса Хрыста. Вось жа таму для нашага беларускага народу абраз Маці Божай Жыровіцкай — гэта сапраўдны сымбаль экуменізму.***

Здаўна славіцца сваімі шматлікімі ласкамі цудатворны абраз Маці Божай у Жыровіцах. Вось ужо больш за пяць стагоддзяў мноства вернікаў з самых розных куткоў нашай краіны — з-пад Слоніму і Горадні, з Берасьця і Пінску, з Менску, Віцебску ды Гомеля, а нават і з Польшчы, Украіны, Расеі імкнуцца ў гэтае маленькае мястэчка ў самым сэрцы Беларусі, каб прасіць заступніцтва ў нашай нябеснай Апякункі Найсьвяцейшай Дзевы Марыі ды ўзьнесьці малітвы падзякі за атрыманыя ласкі і дабрадзействы.

Жыровіцкі абраз уяўляе сабой авал з яшмы, на адным баку якога рэльефная выява Багародзіцы тыпу Замілаваньня з Дзіцяткам Ісусам на правай руцэ. Паводле выдадзенай у часы Уніі «Гісторыі...» Ф.Баравіка (Вільня, 1622; 1628), гэтую сьвятыню знайшлі ў лясным гушчары на квітнеючай грушы-дзічцы ў другой палове XV стагоддзя, калі ўладальнікам Жыровіцаў быў падскарбій Вялікага Княства Літоўскага Аляксандр Солтан, ягоныя пастушкі. У пачатку XVIII стагоддзя І.Нардзі акрэсьліў больш дакладна час, калі быў знойдзены абраз Маці Божай — 1470 год, і сёньня ад гэтай даты звычайна і выводзяць гісторыю цудатворнага абраза. Праўда, праваслаўны царкоўны гісторык П.Жуковіч лічыў больш верагодным часам знаходкі абраза 1493-1495 гг.

Паданьне гаворыць, што спачатку Аляксандр Солтан, якому прынесьлі пастушкі сваю знаходку, меў намер захоўваць маленькі абразок з выявай Божай Маці ў куфэрку, аднак ён адтуль дзіўным чынам прапаў, калі падскарбій захацеў паказаць яго сваім гасьцям. Абразок зноў знайшлі па промнях сьвятла на той самай грушцы. Пабачыўшы ў гэтым здарэньні пэўны знак Нябеснай Уладаркі, Солтан вырашае пабудаваць драўляны храм Божы ў гонар Найсьвятой Багародзіцы на тым самым месцы, дзе сярод лясных дрэваў упершыню зазьзяў промнямі на грушцы абраз Божай Маці. Сам каменны абраз упрыгожваецца срэбрам і выстаўляецца для агульнага ўслаўленьня.

Мала, аднак, хто ведае, што менавіта ў тыя часы (калі яшчэ жыла памяць пра Фларэнцкую Унію, і калі беларуска-ўкраінская частка Кіеўскай мітраполіі канчаткова адасобілася ад маскоўскай) некаторыя праваслаўныя ярархі Вялікага Княства Літоўскага і шэраг радавітых баяраў думалі пра тое, каб паяднаць разьяднаных хрысьціянаў Усходняй і Заходняй Царквы, бо бачылі, якую шкоду дзяржаве і Царкве Хрыстовай прыносіць узаемная варожасьць вызнаўцаў розных традыцыяў. Былі сярод тых шчырых хрысьціянаў і два браты Солтаны — Іван (Івашка) і Аляксандр, якія ў 1471 годзе нават прынялі унію. У 1476 годзе, калі з Масквы праз ВКЛ вяртаўся апостальскі нунцый папы Сікста IV, яны разам з іншымі баярамі і духоўнымі асобамі падпісалі ліст, у якім прапаноўвалі Рыму ідэю царкоўнай уніі ў іх дзяржаве. Брат літоўскага падскарбія Аляксандра Солтана Івашка быў тады ў складзе пасольства ў Рыме, якое даставіла Рымскаму папе гэты ліст, датаваны 14 сакавіка 1476 году.

Мінула паўстагоддзя, і каля 1560 году здараецца бяда — агонь нішчыць царкву. Адшукаўся маленькі абразок ізноў праз цуд. Дзеці, што гуляліся непадалёку ад пажарышча, раптам заўважылі пад гарой на камені сьвечку, якая гарэла, а ля яе — незвычайнае прыгажосьці жанчыну, якая малілася. Уражаныя, яны пабеглі да настаўніка-сьвятара. На ўказаным дзецьмі месцы ён знайшоў згублены абраз Усячыстай Дзевы Марыі, а на камені, дзе гарэла сьвечка,— сьлед нагі Багародзіцы. З вялікай пашанаю жыхары мястэчка перанесьлі ў хату сьвятара цудоўна адшуканы абраз, дзе ён захоўваўся да часу, пакуль не была адноўлена царква.

Ва ўсім гэтым паданьні пра зьяўленьне Маці Божай у Жыровіцах яўна адчуваецца трагічная гісторыя нашай Беларусі, гарады і вёскі якой ня раз у тыя часы палалі ў агні пажарышчаў пасьля нападаў крымскіх татараў з поўдня і маскоўцаў з усходу, а часам бывалі яшчэ і ўнутраныя сутычкі ды ўзброеныя змаганьні. Ня так хутка і далёка ня ўсе паселішчы маглі аднавіцца пасьля такіх спусташэньняў. Не забудзьма й пра наступ ідэяў кальвінізму ў першай палове XVI ст., якімі захапіліся многія багатыя роды ВКЛ, вынікам чаго стала замена праваслаўных сьвятыняў на кальвінскія зборы, адкуль выкідаліся ўсе абразы. (Напэўна, таму й ня варта дзівіцца, што так мала ў нас сёньня захавалася іконаў, напісаных да XVI ст.). А спакутаваная душа прагнула ачышчэньня чакала міру і злагоды, і тады на дапамогу прыходзіла Божая Маці. Менавіта Яна, Нябесная Маці, стала той «апорай хрысьціянаў», «нашых ворагаў прагнала», «беззаконных пакарала» — як вось ужо шмат стагоддзяў сьпяваецца ў песьні ў гонар Маці Божай Жыровіцкай.

З 1587 году ў Жыровіцах засноўваецца манаская абіцель. Але сапраўдны росквіт Жыровіцаў і шырокі культ Жыровіцкага абраза Маці Божай прыпадае на часы Уніі, калі сюды прыйшлі манахі-базыльяне. Слава цудоўнага абраза Маці Божай пачала прыцягваць у мястэчка шматлікіх вернікаў.

Уладальнік Жыровіцаў смаленскі кашталян Ян Мялешка і Даніла Солтан запрасілі сюды ў 1613 годзе манахаў-базыльянаў, зрабілі вялікую фундацыю для манастыра. Першым ігуменам манастыра стаў Язафат Кунцэвіч, пазьнейшы архібіскуп Полацкі — мучанік і сьвяты. Менавіта пры Язафаце Кунцэвічы на месцы першага зьяўленьня абраза пачаў узводзіцца новы велічны мураваны храм для цудатворнага абраза Маці Божай, які быў названы ў гонар Усьпеньня Багародзіцы. Сьвяты Язафат і ягоныя наступнікі сьвядома імкнуліся стварыць у Жыровіцах моцны цэнтр Уніі, каб тут, пад апекай Маці Божай, умацоўваць еднасьць хрысьціянаў у нашым Краі. Адданая і пабожная праца айцоў базыльянаў знаходзіла водгук як у

простага люду, так і ў шляхты ды магнатаў. Ня раз ля Жыровіцкага абраза Божай Маці маліліся канцлер ВКЛ Леў Сапега, які падараваў манастыру шмат зямлі, карчму і звон для царквы; узносілі свае малітвы і атрымлівалі аацаленьні магнаты з роду Астрожскіх, Агінскіх, Войнаў Палубінскіх, Радзівілаў, Сангушак, Сапегаў, Солтанаў, Сьлізьняў, Хадкевічаў і іншыя. Слава маленькага цудатворнага абразка з Жыровіцаў дайшла і да Варшавы да самога караля. 9 сьнежня 1644 году ў Жыровіцкай сьвятыні два дні быў на ўрачыстых набажэнствах кароль і вялікі князь Уладзіслаў IV з каралеваю. Дзеля праслаўленьня Багародзіцы 21 чэрвеня 1652 году кароль Ян Казімімр надаў Жыровіцам — яшчэ зусім нядаўна ціхаму мястэчку на ўскрайку пушчы — магдэбургскае права.

Жахлівая па колькасьці разбурэньняў і чалавечых ахвяраў вайна з Масковіяй не абмінула і Жыровіцы. У 1655 годзе 20-тысячнае казацкае войска на чале з Залатарэнкам спаліла Жыровіцы, зьнішчыла амаль усіх жыхароў. Асабліва жорстка захопнікі расправіліся з манахамі базыльянамі, частка якіх была закатавана, іншыя ж ураталіся ўцёкамі. Сьвятыня Маці Божай была абрабавана і моцна разбурана. Некаторы час сьвятыняй апекаваліся слонімскія бернардыны, бо ў час вайны з Масковіяй, перасьледаваная непрыяцелем, Уніяцкая Царква была так зьнішчана, што многія думалі — яна ўжо не адродзіцца. 28 чэрвеня 1660 году непадалёку ад Жыровіцаў, пад Палонкай (сёньня — Баранавіцкі р-н), адбылася вырашальная бітва з маскоўскімі захопнікамі. Цудоўная перамога ў гэтай бітве нашых продкаў пад кіраўніцтвам Паўла Сапегі і Стэфана Чарнецкага над больш колькасным праціўнікам адбылася, як тады ўсе аднадушна лічылі, выключна дзякуючы заступніцтву і апецы Маці Божай Жыровіцкай. Перамога гэтая зьмяніла ўвесь ход вайны. З гэтага часу зноў пачалі адбудоўваць сваю сьвятыню айцы базыльяне.

19 траўня 1667 году ў Варшаве кароль Ян Казімір выдаў Жыровіцкаму манастыру прывілей, у якім ён дзякуе Ўсемагутнаму: «за Яго сьвяты Провід, за падараваны нам ласкі поўны Абраз Найсьвяцейшай Божай Маці ў Жыровіцах як месцу памілаваньня і апекі». У прывілеі кароль адзначае: «Мы павінны вечна шанаваць гэты Абраз Божае Маці, бо праз Яе заўсёды атрымліваем блаславеньне і посьпех дзяржаве, асягаюцца добрыя вынікі, дзеля чаго ён, кароль, абвяшчае вынятковую сваю ўвагу усім, хто служыць і моліцца і хто шануе ды славіць гэты абраз Божае Маці». Вось жа маліліся ў Жыровічах, прасілі заступніцтва Маці Божай і дзякавалі Ёй пазьней і іншыя каралі: Ян III Сабескі — перад бітвай пад Венай (1683), другі раз, разам з каралевічам Якубам — у 1688; Аўгуст II Сас, Станіслаў Аўгуст Панятоўскі.

Архітэктурны ансамль Жыровіцкага манастыра склаўся ў XVII-XVIII стст. Асаблівымі апекунамі і фундатарамі манастыра сталі прадстаўнікі роду Сапегаў. Да пачатку 1680-ых гадоў было скончана аднаўленьне галоўнай сьвятыні манастыра — Усьпенскага храму, дзе знаходзіцца цудатворная ікона і крынічка з гаючай вадой. Адначасова пачалося ўзьвядзеньне Зьяўленскай царквы, якая пабудавана на месцы каменя, дзе другі раз зьявіўся цудатворны абраз Маці Божай пасля пажару. Паводле некаторых зьвестак, яна была ўзьведзена ў 1672 годзе, аднак іншыя крыніцы падаюць 1769 год. У 1769 г. было закончана будаўніцтва трэцяй манастырскай царквы ў гонар Узвышэньня Сьвятога Крыжа — храма Кальварыі, дзе на столі і сьценах царквы паказаны сцэны з гісторыі мучаніцтва, сьмерці на крыжы і пахававаньня Збаўцы. Асаблівасьці архітэктуры гэтага храму мелі сымбалізаваць для вернікаў паломніцтва ў Ерусалім, на Галготу. Ад уваходных дзьвярэй аж да сярэдзіны царквы пабудаваны дробныя сходы, на кожнай прыступцы якіх у асобных алтарыках знаходзіліся мошчы сьвятых, закрытыя шклом. Зьнятыя пазьней, пасьля скасаваньня Уніі, яны былі схаваныя ў галоўным алтары. Калісьці гэты шлях малельнікі праходзілі на каленях. Праваслаўнымі гэтая царква рэдка выкарыстоўвалася. А ў міжваенны час яна была нават перададзена каталікам.

Ёсьць яшчэ чацьвёрты храм — драўляная царква сьв. Юрыя на могілках. У ёй знаходзіцца астанкі царкоўнага пісьменьніка а. Плакіда Янкоўскага.

У адным з бакавых скляпеньняў Усьпенскай царквы і сёньня знаходзіцца труна з нятленным целам вялебнага Якіма (Цеханавецкага), уніяцкага біскупа Пінскага і Тураўскага, які адзначаўся суровым рэгулямінам жыцьця і памёр у сьвятасьці ў Пінску 4 красавіка 1719 году. Паводле жаданьня Ўладыкі, пасьля сьмерці цела яго было перанесена з Пінску ў Жыровічы і пахавана ў агульным брацкім склепе. Праз нейкі час, як кажа мясцовае паданьне, ён зьявіўся ў сьне аднаму з старцаў манастыра, а потым таксама ігумену ды братам-манахам. Было вырашана адчыніцьтруну, і, на вялікае зьдзіўленьне прысутных, цела аказалася нятленным. Гэты факт у вачах праваслаўнага люду — асаблівае сьведчаньне сьвятасьці спачылага тут біскупа-базыльяніна, хоць многія нават і ня ведалі, што ён быў уніятам. Вядома, што ў перыяд пасьля скасаваньня Уніі і да II Сусьветнай вайны праваслаўныя зьверхнікі манастыра з пашанай ставіліся да яго і двойчы на год — 4 красавіка і 9 верасьня — сьпецыяльна адпраўлялі набажэнствы за супакой душы багалюбнага біскупа Якіма. (На жаль, невядома, ці захавалася такая практыка цяпер.) Такім чынам гэты сьвяты Ўладыка стаў нязвыклым зьвяном, якое яднае ў манастыры сучаснае праваслаўе з яго ўніяцкім мінулым і, напэўна, гэта можна назваць яшчэ адным цудам, учыненым Маці Божай Жыровіцкай.

Вялікая слава Жыровіцкага абраза дайшла нават да Рыму. Калі ў жніўні 1718 году ў царкве сьв. Сяргея і Вакха, якую Папа Рымскі аддаў айцам базыльянам нашай Літоўскай правінцыі, падчас рамонту пад тынкам у адной з сьценаў будынку выпадкова выявілі абраз Маці Божай, яны не сумняваліся — да іх зьявілася такім цудоўным чынам Маці Божая Жыровіцкая. Абраз у рымскай царкве айцоў базыльянаў зьяўляецца копіяй выявы на камені ў Жыровіцах. Гэтая ікона ў Рыме, вядомая сярод мясцовага люду як Madonna del Pascolo, таксама стала вельмі шанаванай, бо дзякуючы заступніцтву Маці Божай атрымалі цудоўныя ацаленьні многія італійскія вернікі.

Сёлета, 19 верасьня, споўнілася 275 гадоў, як цудатворны абраз Маці Божай у Жыровіцах быў каранаваны залатымі папскімі каронамі, а Маці Божая Жыровіцкая з блаславеньня Папы Рымскага Клімента XII, які асабліва шмат клапаціўся пра Ўсходнюю Царкву, была ўрачыста абвешчана Каралевай беларускага народу. Каранаваць абраз меў намер 8 верасьня 1728 году яшчэ мітрапаліт Леў Кішка, аднак тагачасная сітуацыя ў краіне не спрыяла гэтаму, і каранаваньне адклалі; зьдзейсьніў яе ўжо наступнік гэтага мітрапаліта.

Багата аздобленыя каштоўнымі каменямі залатыя кароны, выкананыя ў Рыме, ахвяравала для абраза княгіня Ганна Радзівіл з роду Сангушкаў, а з Рыму іх даставіў яе сын Геранім Радзівіл. Вось жа 19 верасьня 1730 году (8 верасьня па старым стылі, у сьвята Нараджэньня Багародзіцы) уніяцкі мітрапаліт Кіеўскі Апанас Шаптыцкі ў прысутнасьці пасланьніка папы, двух біскупаў (Тэафіла Гадэбскага, уладыкі Ўладзімірскага і Берасьцейскага ды Юрыя Булгака, уладыкі Пінскага і Тураўскага), духавенства абодвух абрадаў і дзясяткаў тысячаў вернікаў зьдзейсьніў урачысты акт каранацыі слыннага ласкамі абраза Маці Божай у Жыровіцах. Падчас урачыстасьці працэсія прайшла праз шэсьць трыюмфальных брамаў, пабудаваных на шляху з Слоніма ў Жыровіцы. На працягу тыдня ля цудатворнага абраза не спыняліся набажэнствы, каля 140 тысячаў вернікаў абодвух абрадаў прыйшлі за гэты час спавядацца і прычашчацца Сьвятымі Тайнамі. У гэты ж час былі нават занатаваны сем цудоўных здарэньняў. У памяць пра гэтую вялікую ўрачыстасць у Жыровіцах былі адліты памятныя медалі.

Жыровіцкі абраз двойчы пакідаў сьцены манастыра. Першы раз гэта здарылася ў 1660 годзе, у час «Патопу» — вайны з Масковіяй, калі абраз, каб ураташаваць, вымушаны былі вывезьці ў манастыр базыльянаў у Быцені. Другі раз — у 1915 годзе, калі пачалася сусьветная вайна. Яго вывезьлі ў Маскву, а адтуль Жыровіцкі абраз вярнуўся ўжо бяз большасьці аздобаў.

Галоўная сьвятыня беларускага народу — абраз Маці Божай Жыровіцкай на камені — сёньня належыць праваслаўным. Аднак у Жыровіцкі праваслаўны манастыр памаліцца да Маці Божай часта прыязджаюць і грэка-каталікі. У часы Уніі сярод усіх абразоў Маці Божай, якія былі ва ўніяцкіх сьвятынях Беларусі, найбольш пашыраныя былі якраз копіі з Жыровіцкай іконы. Сёньня варта асабліва адзначыць сярод розных копіяў Жыровіцкага абраза дзьве цудатворныя іконы, якія належаць каталікам. Адна з гэтых сьвятыняў дагэтуль знаходзіцца ў Рыме ў царкве *Madonna del Pascolo* (сьв. Сяргея і Вакха айцоў базыльянаў), якой цяпер карыстаюцца ўкраінскія грэка-каталікі. Час ад часу ў гэтым храме ля цудатворнай іконы Маці Божай Жыровіцкай моляцца і беларускія грэка-католікі. Цікавая гісторыя і лёс другой цудатворнай копіі. Сёньня яна знаходзіцца ў рыма-каталіцкім касьцёле сьв. Андрэя ў Слоніме. Аднак мала хто ведае, што і гэтая ікона мае грэка-каталіцкае мінулае...

*Працяг на с.14* ⇨

# КАРАЛЕВА беларускага народу

⇨ Заканчэньне са с.12-13.

Гэты абраз Маці Божай Жыровіцкай даволі вялікі, намаляваны на палатне, і зьяўляецца копіяй як раз таго, што ў Рыме, у царкве базыльянаў. У 1738 годзе нашыя базыльяне, што жылі ў Вечным горадзе, вырашылі падараваць на Бацькаўшчыну базыльянам у Жыровіцы копію свайго цудатворнага абраза Madonna del Pascolo. Падобна, што іх замову выконваў нейкі італійскі іканапісец, бо ў надпісу на царкоўнаславянскай мове вакол выявы Маці Божай з Дзіцяткам Ісусам з прычыны няведаньня гэтае мовы ён дапусьціў пэўныя недакладнасьці. Вось жа гэтая копія рымскай цудатворнай іконы Маці Божай Жыровіцкай была першапачаткова зьмешчана айцамі базыльянамі ў царкве сьв. Юрыя на могілках у Жыровіцах, і там яна знаходзілася ўвесь час да скасаваньня Уніі ў 1839 годзе. Пазьней яна належала праваслаўным, ажно да пачатку 1939 году. Менавіта тады праваслаўныя перадалі гэтую рымскую копію рыма-каталікам, якія ды валодалі храмам-Кальварыяй — царквой Узвышэньня Сьвятога Крыжа ў Жыровіцкім манастыры. Цяпер гэты храм зноў належыць праваслаўным, а падараваная базыльянамі рымская копія ікона Маці Божай Жыровіцкай сёньня знаходзіцца над галоўным алтаром некалі ўфундаванага Сапегамі цудоўнага касьцёлу сьвятога апостала Андрэя, якім апякуюцца айцы капуцыны.

Вось такім дзіўным спосабам Маці Божая Жыровіцкая лучыць наш беларускі народ, вызнаўцаў праваслаўя і каталіцтва, католікаў візантыйскага і лацінскага абрадаў. І таму ікону Маці Божай Жыровіцкай можам называць яшчэ й Маці Божай Еднасьці. У 2003 годзе, зьвяртаючыся да каталіцкіх ярархаў Беларусі падчас іх візіту *«ad limina Apostolorum»*, менавіта Яе апецы даручыў Папа Рымскі Ян Павел II Беларусь: ***«Даручаю ўсіх апецы Найсьвяцейшай Панны Марыі, якая ўшаноўваецца на вашай зямлі пад імем Маці Божай Жыровіцкай. Прашу Яе быць заступніцай вас, вялебныя і любыя Сабраты, і вашых бліжэйшых памочнікаў — сьвятароў, законьнікаў і законьніц, семінарыстаў і сьвецкіх асобаў, якія актыўна займаюцца апостальскай дзейнасьцю, і ўсёй каталіцкай грамады, што жыве ў Беларусі. Няхай на ўсіх і на кожнага прасьцягне Яна разам са сьвятымі Заступнікамі вашай зямлі, сваю матчыну апеку».***

**Ігар БАРАНОЎСКІ**





• Іконы Маці Божай Жыровіцкай у Рыме і яе копія ў Слоніме, у касьцёле сьв. Андрэя.

**ЛІТУРГІКОН.** *"Божым шляхам", Лондан, 2005.— 272 с. Наклад 150 ас.*

Напрыканцы 2005 году ўпершыню зьявіўся Літургікон па-беларуску — выключна каштоўнае выданьне для сьвятароў візантыйскай традыцыі. У гэтай кнізе (фармату А-5) сабраныя разам поўныя тэксты Літургіяў сьв. Яна Залатавуснага, сьв. Васіля Вялікага і Літургіі Раней асьвячаных Дароў з усімі богаслужбовымі рубрыкамі, а таксама асаблівасьці Літургіі ў некаторыя сьвяты Гасподнія ды пракімны, алілуя і прычасьнікі (на кожны дзень тыдня і нядзельныя васьмі тонаў). Апрача гэтага зьмешчаны зьменныя часткі Службы за памерлых, Службы на ўсякую патрэбу ды Месяцаслоў.

Усе тэксты, перакладзеныя на беларускую мову мітрафорным протаярэем Аляксандрам Надсанам, зацверджаныя Кангрэгацыяй Усходніх Цэркваў. Літургікон (Службоўнік) падрыхтаваны супрацоўнікамі выдавецтва "Божым шляхам" С.Стасевічам і А.Трафіменкам, надрукаваны ў Год Еўхарыстыі (2005), дзякуючы дапамозе 4-х італійскіх архімандрытаў Мельхіцкай Грэка-Каталіцкай Царквы.

# Еўропа дыялогу

⇨ Заканчэньне са с.8-9.

Другі асьпект праблемы: ва ўмовах, калі большасьць арэлігійная або антырэлігійная, хрысьціяне могуць вярнуць многіх да традыцыйных каштоўнасьцяў, калі будуць абараняць гэтыя каштоўнасьці і правы чалавека. Калі Царква абараняе каштоўнасьці, яе слухаюць, сказаў дамініканін. Хрысьціяне могуць вярнуць людзей да Хрыста і праз творы мастацтва: кіно, музыку, выяўленчае мастацтва, У такім разе яны пераймаюць функцыі школы і бацькоў.

Трэці асьпект праблемы сфармуляваў М.Марыновіч: не люблю апазыцыі «навука і рэлігія». Боскі план сьвету, сказаў ён, адкрываецца для нас і навукаю, і людзьмі веры. Як акцэнтаваў у сваім выступе мітрапаліт Люблінскі Юзаф Жыцінскі, антыінтэлектуалізм можа дорага каштаваць Царкве.

2. Еўропе патрабуецца дыялог паміж хрысьціянамі і вернікамі-нехрысьціянамі.

Вялікую цікавасьць удзельнікаў зьезду выклікаў рэфэрат вялікага муфція Босьніі і Герцагавіны Мустафы Цэрыча. Ён прапанаваў падзяліць мусульманскае насельніцтва Еўропы на тры групы: аўтахтоны, імігранты, дзеці і ўнукі імігрантаў. З выступу вялікага муфція вынікала, што Еўропа ня мае праблемаў з мусульманамі-аўтахтонамі. Калі ў былой Югаславіі распачалася вайна і мусульмане Босьніі сталі яе ахвярамі, ім на дапамогу прыйшлі Еўрапейцы. У гэтай сувязі вялікі муфцій адзначыў тую ролю, якую адыграў ва ўрэгуляваньні праблемы былы прэм'ер-міністар Польшчы каталік Тадэвуш Мазавецкі. Праблема для Еўропы ў тым, як інтэграваць імігрантаў і іх дзяцей у грамадствы краінаў, у якіх яны жывуць, сказаў вялікі муфцій.

На фоне ісламскай праблемы пытаньне пра месца юдэяў у Еўропе выглядала як лёгкае. І ўсё ж прафесар рымскага ўніверсітэту Angelicum рабін Джэк Бэмпарад (Bemporad), разважаючы пра даўнюю — з часоў Рымскае імпэрыі — прысутнасьць габрэяў у Еўропе, пра юдэя-хрысьціянскую цывілізацыю, мусіў адзначыць, што на нашым кантыненце па-ранейшаму існуе пагроза антысемітызму, які ў тых ці іншых формах час ад часу праяўляецца ў розных краінах.

Адзначалася, у прыватнасьці, у выступе старшыні Папскай Рады па справах міжрэлігійнага дыялогу архібіскупа Майкла Фітцджэральда, што антысемітызм і хрысьціянства несумяшчальныя, бо само хрысьціянства выйшла з юдаізму. Вельмі важна падтрымліваць дух дыялогу паміж рознымі рэлігіямі. І ў гэтай сувязі згадвалася, што Сьвяты Айцец Ян Павел II даў прыклад такога дыялогу. Яго справу працягвае новы Папа Бенядыкт XVI, які падчас пілігрымкі ў Нямеччыну гутарыў з юдэйскім і мусульманскім духавенствам.

*(Заканчэньне ў наступным нумары)*

# Там, дзе была Унія...

***Беларусь не перастае захапляць сваімі краявідамі, людзьмі, іх лёсамі. Колькі вандруеш, вядзеш пошукі — заўсёды цябе чакае нешта дагэтуль незнаёмае, спаткае цябе тое, чаго і чакаць ня мог, знойдзецца нешта яшчэ зусім неадкрытае і недасьледаванае, і наперадзе — зьдзіўленьне, імкненьне пазнаць, асэнсаваць. Уражваюць глыбіня чалавечай думкі, прыгажосьць людзкой справы, адданасьць, служэньне, вера...***

***Ня ведаю, што больш захапляе: буслы, якія шырока раскідваюць свае крылы над Нёманам, ці сьветлыя вочы людзей, напоўненыя сьлязьмі замілаваньня і кранальнай памяцьцю пра ўласнае мінулае, якое ўжо нельга вярнуць. Ужо некалькі гадоў дасьледую гісторыю міжваеннай Уніі, і сёньня мне зноў хочацца падзяліцца сваімі новымі знаёмствамі, каб нашыя вернікі маглі прачытаць новыя радкі з гісторыі Уніяцкай Царквы.***

Гэтым летам, у жніўні 2005 году, мне здарылася нагода наведаць вёску Дзялятычы, што на Нёмане, у Наваградзкім раёне Гарадзенскай вобласьці. Як і ў некаторых іншых мясцовасьцях Заходняй Беларусі, у гэтай вёсцы ў 20-ыя гады XX стагоддзя адрадзілася Унія. Гэта была адна з першых уніяцкіх парафіяў. Паводле царкоўнай статыстыкі, у 1939 годзе Дзялятыцкая ўніяцкая парафія налічвала каля 1500 вернікаў. З 1935 году тут працаваў выдатны беларускі каталіцкі сьвятар візантыйскага абраду айцец Вячаслаў (Вацлаў) Аношка, пра місійную дзейнасьць якога на Палесьсі (у Альпені) чытачы ня раз ужо чыталі на старонках газеты «Царква». І ў Дзялятычы я ехала, каб сабраць новыя матэрыялы найперш пра яго. Але, як высьветлілася, мясцовыя жыхары памятаюць ня толькі айца Аношку, але і іншых уніяцкіх сьвятароў, якія служылі ў Дзялятычах. Вось гэтую жывую гісторыю мясцовай уніяцкай парафіі я і запісала паводле аповядаў старых вяскоўцаў. Вядома, у нечым гэтая інфармацыя не зусім дакладная, але тут важна менавіта тое галоўнае, што засталося ў памяці людзей.

«Унія ў нас была дваццаць гадоў. Унію гэтую, калі вы паверыце, вызваў і вастанавіў мой бацька Пётр Рыгоравіч Мамчыц»,— узгадвае жыхарка Дзялятычаў Ніна Пятроўна Ціхановіч.— Праваслаўныя (епархіяльныя ўлады — *А.І*) хацелі закрыць нашую царкву (верагодна, з прычыны недахопу сьвятарскіх кадраў — *А.І.*). Хацелі, каб у нас служба была раз на месяц, а ў вёсцы Падліпцы (паўкіламетры ад Любчы — *А.І.*) — тры разы на месяц. Мой бацька быў граматны, пры царызме служыў на Каўказе, меў сельскагаспадарчы атэстат, прачытаў дзето, што ўніяцкія празьнікі празнуюцца па старым чыслам, служба ідзе абыкнавенна, толькі што ўспамінаюць перад Еўхарыстыяй не Маскоўскага Патрыярха, а Папу Рымскага. Сабраў ён у нашай хаце людзей і сказаў: якая розьніца — адкуль мы ведаем, хто лепшы з іх чалавек. Я тады малая была, на пячы сядзела, але гэта запомніла. Напісалі ў Пінск ліст. Было патрэбна, каб яго падпісала каля 50 чалавек, а падпісала 250 — тады вёска вялікая была.


• Бабулі з былой уніяцкай парафіі ў Дзялятычах.

Праз два тыдні да нас прыслалі сьвятара айца Кнурэнку. Падчас Першай сусьветнай вайны ў нас усе бежанцы былі. Калі ж вярнуліся — жыцьця не было дзе, а Кнурэнка для ўсіх бясплатна дастаў дрэва, каб пабудаваліся».

Паводле словаў спн. Н.Ціхановіч (Мамчыц), напачатку ўніяцкія набажэнствы праходзілі ў прыватнай хаце, але пазьней вернікі атрымалі магчымасьць маліцца ў сваёй старой драўлянай царкве (18 ст.). Дарэчы, як яны помнілі,— былой уніяцкай, названай у гонар Узвышэньня Сьвятога Крыжа. Добрым словам узгадваюць вяскоўцы ўніяцкага сьвятара айца Міхаіла Кнурэнку *(нарадзіўся ў 1889 г., высьвячаны на сьвятара ў 1921 г., памёр — ? — Рэд.)*. Кажуць, быў юрыстам, былым расейскім афіцэрам, і калі ў каго якая патрэба была — заўсёды дапамагаў. Як узгадваюць старыя вяскоўцы, пры а. Кнурэнку ў цэнтры Дзялятычаў крыж паставілі, які, калі Саветы прыйшлі, бязбожнымі ўладамі быў сьпілаваны. А сёньня на тым месцы помнік партызану стаіць...


• Былая ўніяцкая царква Ўзвышэньня сьв. Крыжа ў в. Дзялятычы Наваградзкага р-ну.

Наступным уніяцкім сьвятаром у Дзялятычах быў айцец Ян Панько *(нар. у 1882 г., высьвяч. у 1912 г., пам. — ? — Рэд.)*. Паводле словаў спадарыні Марыі Чэрткі, айцец Панько быў раней праваслаўным сьвятаром. Сям'ю яго добра помніць: «У а. Панька было шасьцёра дзяцей: тры сыны — Саша, Толя, Жорж і тры дачкі — Люся, Лена, Таня ды матушка Вольга». Пра айца Аношку як настаўніка рэлігіі ў школе яна кажа, што ў параўнаньні з айцом Панько ён быў, на яе думку, слабейшы: «Хацеў дысцыпліну на ўроках, ставіў у вугал...»

Узгадала спн. Марыя Чэртка таксама і тое, што бываў у іх у Дзялятычах з візітацыямі Апостальскі візітатар для католікаў славяна-візантыйскага абраду біскуп Мікалай Чарнецкі (цяпер блаславёны сьвятамучанік): «Прыязджаў намесьнік з Рыму — біскуп Чарнецкі. Я самая малая была, кветкі пасыпала» (на дарозе перад біскупам — *А.І.*). Ад яе даведалася таксама і пра іншыя цікавыя факты з жыцьця Дзялятыцкай уніяцкай парафіі: «Пры а. Панько прыязджаў да нас ксёндз Пётр Татарыновіч... У Дзялятычах шмат габрэяў да вайны жыло, і яны таксама выходзілі на плошчу, каб паслухаць казаньні кс. Татарыновіча. Плакалі! Шмат у нас было асаднікаў-палякаў. Айцец Аношка абедню з раніцы адправіць, а затым для палякаў служыў. На сьвяты хадзілі з працэсіяй на замак у Любчу. Калі прыходзілі на замак — манашкі нам кіпячонае малако з булкай давалі. Айцец Аношка сябраваў з манашкамі з Любчы *(гэта былі сёстры-уршулянкі — Рэд.)*. Таксама ён у суседнім Усялюбе ў касьцёле служыў. Айцец Аношка ў нас да 1944 году служыў. Як ішла Чырвоная армія, Аношку партызаны ў Чарэшлю забралі (суседняя вёска, дзе месьціўся партызанскі атрад). Забіць хацелі, але там былі дзялятыцкія хлопцы — не далі яго забіць, адпусьцілі. То было на Вербніцу, перад Пасхай. Мы ўсе перапужаліся, калі бацюшку забралі. Калі ж айцец Аношка вярнуўся з Чарэшлі, адразу ў звон пачаў званіць, і ўся вёска сабралася. Ён службу адправіў, а затым тайна зышоў...».

Вось так, з адыходам айца Аношкі, які выехаў у Польшчу, прыпынілася Унія ў Дзялятычах. Але і па сёньняшні дзень засталася сьветлая памяць пра ўніяцкіх сьвятароў, што працавалі тут. З удзячнасьцю ўзгадваюць людзі а. Міхаіла Курэнку, а. Яна Панько, а. Вячаслава Аношку, выдатнага беларускага рэлігійнага і грамадзка-культурнага дзеяча ксяндза Пятра Татарыновіча, якія былі сапраўднымі пастырамі Хрыстовымі. Засталіся ў дзялятыцкіх уніятаў таксама шчымлівыя ўспаміны і пра гонар Дзялятычаў — іх славуты парафіяльны хор. Кажуць, гэтым хорам кіраваў дзяк Сямашка. Уніяцкі царкоўны хор з Дзялятычаў славіўся на ўсю акругу, яго запрашалі на розныя сьвяты і ў іншыя мясцовасьці. Вяскоўцы сьцьвярджаюць, што сьпецыяльна прыехаў паслухаць хор сам Рыгор Шырма. Трох харыстаў ён потым запрасіў у свой знакаміты віленскі хор. Існаваў хор і пасьля II Сусветнай вайны, меў гастролі ў розных гарадах краіны і нават за мяжою. А неяк, падчас канцэртаў у Польшчы, дзялятыцкія харысты сустрэліся з дочкамі іх уніяцкага душпастыра а. Яна Панько — Люсяй і Таняй, якія ў той час жылі ў Беластоку. Дагэтуль яны захоўваюць памяткі ад іх, падараваныя пры той сустрэчы.

**Анастасія ІЛЬІНА**
*г.Берасьце*



# Малітва на Экуменічны тыдзень 2006 году

О Госпадзе,
Божа жывы, абудзі ў нас прагненьне быць адзінымміссійным народам. Учыні нас уважлівымі да Твайго закліку і дай нам вытрымку ў шляху за Тваім Духам. Учыні, каб праз наша супольнае сьведчаньне мы наблізіліся да найбольш слабых, дзеля абвяшчэньня ўсяму сьвету Добрай Весткі пра надыход Твайго Валадарства.
Амін.

# Тыдзень малітваў за еднасьць хрысьціянаў

## 18 – 26 СТУДЗЕНЯ 2006 ГОДУ

***«Дзе двое альбо трое сабраныя ў Імя Маё, там Я сярод іх» (Мц 18,18-20)***

ТЭМЫ І БІБЛІЙНЫЯ ЧЫТАНЬНІ:

**1-ы дзень, 18.01.2006**
*ЗЬЯДНАНЫЯ Ў ПРЫСУТНАСЬЦІ ХРЫСТА (Эф 4, 5-6)*
Езк 37,15-28; Эф 4,1-6; Ян 14, 23-27

**2-і дзень, 19.01.2006**
*БУДАВАЦЬ ЕДНАСЬЦЬ ХРЫСЬЦІЯНАЎ З ІСУСАМ СПАМІЖ НАС (Ян 13,14)*
2 Пар 30,15-20; 1 Кар 12,12-31; Ян 13,1-5

**3-і дзень, 20.01.2006**
*МАЛІЦЦА РАЗАМ У ІМЯ ІСУСА ХРЫСТА (Іс 30,18)*
Іс 30,18-26; Дз 1,12-14; Мц 18, 18-20

**4-ы дзень, 21.01.2006**
*АД МІНУЛАГА ДА СУЧАСНАГА: ПРАБАЧЭНЬНЕ. ШТО ЛЕЧЫЦЬ ПАМЯЦЬ (Мц 18, 22)*
Ён 3,1-10; Кал 3,12-17; Ян 8,1-11

**5-ы дзень, 22.01.2006**
*БОГ ПРЫСУТНЫ СПАМІЖ НАС: ЗАКЛІК ДА СУПАКОЮ (Пс 46)*
3 Цар 19, 1-13а; Дз 10,9-48; Лк 10, 25-37

**6-ы дзень, 23.01.2006**
*МІСІЯ Ў ІМЯ ІСУСА (Мц 18, 14)*
Дан 3,19-30; Дз 8, 26-40; Лк 10,1-12

**7-ы дзень, 24.01.2006**
*РАСПАЗНАЦЬ ПРЫСУТНАСЬЦЬ БОГА Ў ІНШЫМ (Мц 18,5)*
Вых 3,1-17; Дз 9, 1-6; Мц 25,31-46

**8-ы дзень, 25.01.2006**
*ЗЬЯДНАНЫЯ Ў НАДЗЕІ (Ян 14,20)*
Вых 40,34-38; Адк 21,1-6; Ян 14,15-31

# Пра тых, што адыйшлі

⇨ *Заканчэньне са с.6-7.*

Айцы Царквы заўсёды казалі, што найбольшым злом для чалавека ёсьць ня нейкі асобны грахоўны ўчынак, хай нават вельмі цяжкі, але роспач, якая прыходзіць сьледам за ім і не дае змогі падняцца пасьля падзеньня. Гэта найбольшая перашкода, з якой сустракаецца чалавек на шляху навяртаньня да Бога, перашкода, якая перамагаецца толькі вераю ў Божую доўгацярплівасьць і міласэрнасьць.

Сёньня навакол нас і ў нашых душах зьяўляецца вельмі шмат знакаў, якія сьведчаць пра патрэбу сур'ёзнага іспыту сумленьня. Гэта дасьць нам магчымасьць пакаяньня, зьмены жыцьця, навяртаньня або прабачэньня. Гэта дасьць Царкве магчымасьць у будучым стаць такой, якой Госпад хоча бачыць яе. Лёс Царквы заўсёды складаецца з лёсаў паасобных людзей, жыцьці якіх спляліся ў адно цэлае. Так адбываецца з тымі, што ставяць перад сабою тую самую мэту, што выбіраюць супольны шлях, з тымі, што да канца застаюцца вернымі ўласнаму выбару. Кажучы пра тых, што адыйшлі, не хачу заклікаць іх сёньня да навяртаньня, нешта абяцаць, апрача Хрыстовага крыжа, ці прасіць прабачэньня. Калі за некага баліць тваё сэрца, то гэтага дастаткова, каб зразумець, што ягоны лёс неабыякавы для цябе. Сапраўды важнае толькі адно:

*«Калі гэта твой шлях, пастарайся знайсьці ў сабе сілы зноў стаць на яго»...*



**Царква**
*грэка-каталіцкая газета*
*№ 4 (47), 2005*

Адрас рэдакцыі:
вул.Дворнікава, 63
224014 г.Берасьце (Брэст)
Беларусь
Тэл./факс: (0162) 24-74-82
e-mail: bgkc_carkva@tut.by

**Выдавец:** Грэка-каталіцкая парафія сьвятых братоў-апосталаў Пятра і Андрэя ў г.Берасьці
**Пасьведчаньне аб рэгістрацыі:** № 1055 ад 27.11.1997 г.
**Галоўны рэдактар:** а. Ігар Кандрацьеў,
**Царкоўны асістэнт:** дыякан Андрэй Сідаровіч (MIC)
**Адказны рэдактар:** дыякан Андрэй Крот, STM
**Выпускны рэдактар:** Ігар Бараноўскі
**Падпісана ў друк:** 28 сьнежня 2005 году, а 23-30
**Паліграфічныя работы:** ПП В.Ю.А. (пасьв. № 02330/0131540 ад 30.04.04), вул.Мініна, 23-106, 220014 г.Менск. **Замова № 172.**
**Аб'ём** — 2,5 ул.-выд.аркушы. **Наклад** 1800 асобнікаў.

*НАШ РАХУНАК:*
*№ 3015200210017*
*у філіяле № 2/01*
*г.Берасьця*
*ЗАТ "Абсалютбанк",*
*МФО 150501242,*
*УНП 200558013*

Кошт газеты свабодны. Газета выдаецца і распаўсюджваецца за ахвяраваньні. Шчыра дзякуем усім за ахвяраваньні на газету "Царква".

# РАЗАМ

Газета грэка-каталіцкіх семінарыстаў № 4(20)-2005


## Таямніца пакліканьня

***Не вы Мяне выбралі, але Я вас выбраў і паставіў вас, каб вы ішлі і прыносілі плод, ды каб плод застаўся.***
*(Ян 15, 16)*

***У жыцьці кожнага чалавека надыходзіць момант, калі ён пачынае задумвацца над выбарам жыцьцёвай дарогі. Часам бывае так, што выбар будучай прафесіі не адпавядае талентам і здольнасьцям чалавека. Яшчэ горш бывае, калі сужонкі, пражыўшы некаторы час у шлюбным саюзе, пачынаюць разумець, што яны зусім не падыходзяць адзін аднаму. І вось тады надыходзіць крызіс і чалавек пачынае разважаць над сваім сапраўдным пакліканьнем. Дзе шукаць выйсьця ў такой складанай сітуацыі і хто мог бы нам парадзіць у выбары асабістай жыцьцёвай дарогі?***

Кожны сьвядомы хрысьціянін добра ведае, што яго выбар будучай дарогі павінен быць адпаведны Волі Божай. Толькі ў гэтым выпадку чалавек будзе адчуваць гармонію ў сваім жыцьці. Адкрыць Волю Божую становіцца магчымым тады, калі чалавек цалкам даверыць сябе Госпаду і РАЗАМ з Ім адкрые сутнасьць свайго пакліканьня.

Пакліканьне – гэта таямніца, дар, які мы атрымліваем ад Бога. Кожнае асабістае пакліканьне не нараджаецца за адну хвіліну і не спадае, як дождж з неба, яно павінна паступова фармавацца і разьвівацца.

Сьвятыя айцы кажуць, што істотным элементам для кожнага хрысьціянскага пакліканьня зьяўляецца чытаньне і разважаньне над словам Божым *(Lectio divino)*. Толькі ў сьвятле і моцы Слова Божага можна адкрыць, зразумець і палюбіць сутнасьць пакліканьня. Госпад кліча кожнага чалавека, і нашым заданьнем зьяўляецца адказаць на Божы заклік.

"І сказаў Гасподзь Абраму: ідзі з зямлі тваёй, з радзімы тваёй і з дому бацькі твайго ў зямлю, якую Я пакажу табе; І пайшоў Абрам, як сказаў яму Гасподзь, і з ім пайшоў Лот. Абраму было 75 гадоў, калі выйшаў з Харана" (Быц 12, 1,4).

У гэтых словах найбольш зьдзіўляе тое, што Бог дамагаецца ад Абрама пакінуць сваю бацькаўшчыну, горад і сваіх родных. Абрам слухае Бога, прыймае да свайго сэрца Яго словы і выконвае іх. Такім чынам бачым, як Бог кліча, а чалавек адказвае на Яго заклік.

Наступным патрыярхам, якога абірае Бог у гісторыі збаўленьня, зьяўляецца Майсей. Пакліканьне Майсея было вельмі драматычнае і незвычайнае. "Сказаў Бог Майсею: Я – Сутны. І сказаў: так скажы сынам ізраілевым: Сутны паслаў мяне да вас" *(Вых 3, 14)*. З жыцьця Майсея вядома, што ён быў вельмі адукаваным чалавекам. Адукцыю атрымаў у Ягіпце, у палацы фараона, ня будучы егіпцянінам. У адзін з момантаў свайго жыцьця Майсей зразумеў, што ён ізраільцянін і што мае асаблівую місію, запланаваную праз Бога. З размовы Бога з Майсеем вядома, што патрыярх не адразу пагаджаецца з вялікім заданьнем, якое павінен выканаць. Быць выбраным праз Бога, стаць апосталам свайго народу і вывесьці яго з няволі ягіпецкай – усё гэта вымагала ад Майсея вялікіх унутраных пераменаў. Такім чынам, кожнае пакліканьне цесна зьвязана з пераменамі ў жыцьці, якія наступаюць пасьля размовы Бога з чалавекам. Пакліканьне – гэта дыялог чалавека з Богам.

Глыбокі сэнс пакліканьня першых апосталаў праз Ісуса Хрыста мы адкрываем у Новым Запавеце. "У тыя дні ўзыйшоў ён на гару памаліцца і прабыў усю ноч, малячыся Богу. А як разьвіднела, паклікаў вучняў сваіх і выбраў з іх дванаццаць, якіх і назваў апосталамі" *(Лк 6, 12-13)*. У цэнтры гэтага ўрыўка бачым Ісуса Хрыста. Пасьля ўсяночнай малітвы Ён зьбірае Сваіх вучняў усіх разам і выбірае дванаццаць апосталаў. Апостал – гэта значыць "пасланец". Праводзячы паралель Старога з Новым Запаветам, можна заўважыць, што саюз Бога з чалавекам у Старым Запавеце і выбар апосталаў у Новым Запавеце адбыліся на гары. Менавіта на гары Ісус маліўся перад тым, як прыняць рашэньне. Часам трэба запытацца, дзе знаходзіцца мая "гара" і ці існуе яна ў маім жыцьці. Гэтаю гарою кожнага сьвядомага хрысьціяніна павінна быць Царква. Толькі ў Царкве я магу сустрэць праўдзівага Бога і разам з Ім я магу прыняць станоўчае рашэньне адносна майго пакліканьня.

**Сяргей ГІЛЕЙША**



## "Тройца"

"Тройца" Рублёва – гэта адзін з найпрыгажэйшых і найбольш таямнічых твораў сусьветнага мастацтва.

Ікона была напісана на падставе сюжэту XVIII разьдзелу кнігі Быцьця, дзе апісваецца, як Бог у трох постацях анёлаў зьяўляецца Абрагаму і яго жонцы Сары. Сьвятыя айцы кажуць, што ў постацях трох анёлаў аб'явілася Сьвятая Тройца.

Паглядзеўшы ўважліва на ікону, можна заўважыць, што кожны анёл трымае ў руцэ жэзл, які сымбалічна азначае Божую Ўладу. Вельмі важным элементам іконы зьяўляецца колер адзежы. Цэнтральная постаць анёла апранута ў чырвоны хітон, што сымбалізуе Сына Божага. Анёл з левага боку апрануты ў ліловую сукню, што ўказвае на каралеўскую годнасьць і сымбалізуе Бога Айца. Анёл з правага боку адзеты ў зялёную сукню, што азначае – Сьвятога Духа, называнага Жыцьцядаўцам. На цэнтральным месцы іконы бачым чашу – сымбаль дабравольнай ахвяры Сына Божага. На заднім плане іконы бачым дрэва, гару і дом. Дрэва – гэта жыцьцё, якім ёсьць Сын Божы. Гара – Сьвятасьць Тройцы, дом – Божая Будоўля. У тэалогіі іконы Тройца зьяўляецца Адзінасутнай Сьвятой і Неразьдзельнай.

На наш погляд, гэтая ікона адлюстроўвае еднасьць, якая павінна быць паміж хрысьціянамі, таму мы вырашылі ўзяць яе за эмблему нашай газеты.

# ПАКЛІКАНЬНЕ ДА МАНАСТВА



***"Пакліканьне да манаства – найвялікшая ласка, якую Бог, пасьля хрышчэньня, душы можа даць".***
*(Сьв. Альфонс Лігуоры)*

Пакліканьне да манаства... Для таго, каб лепш зразумець гэтую рэальнасьць у жыцьці Царквы, спачатку зьвернемся да яе першавытокаў, да таго, што выклікала яе да жыцьця. Корань хрысьціянскага манаства знаходзіцца найперш у асобе самога Ісуса Хрыста. Яго словы і прыклад, вымогі і настойлівы заклік сталі асноваю жыцьця першых хрысьціянскіх грамадаў, дзе "ўсе вернікі былі разам і ўсё ў іх было супольнае: і прадавалі дастаткі свае і ўсякую маёмасьць, і надзялялі ўсіх, гледзячы па патрэбе кожнага; і кожны дзень аднадушна заставаліся ў храме і, ламаючы па дамах хлеб, прымалі страву ў радасьці і ў шчырасьці сэрца, праслаўляючы Бога і маючы любоў усяго народу. А Гасподзь штодня дадаваў Царкве тых, хто ратаваўся" *(Дз 2, 44-47).*

Аналагічная сітуацыя захавалася да нашага часу. У апостальскім пасланьні *"Vita consecrata"* чытаем: "Богапасьвячанае жыцьцё абвяшчае і ў пэўны спосаб апярэджвае жыцьцё будучага веку, калі прыйдзе паўната Валадарства Нябеснага, якое ўжо цяпер прысутнае ў асобных яго пладах і таямніцы" *(VC 32).* Тое, што вызначае жыцьцёвы выбар манахаў, гэта – ЛЮБОЎ да Хрыста. Яны за сьв. апосталам Паўлам упэўнена могуць паўтарыць: "Ні сьмерць, ні жыцьцё, ні анёлы, ні начальствы, ні Сілы, ні сёньняшняе, ні будучае, ні вышыня, ні глыбіня, ні іншае якое стварэньне ня можа адлучыць нас ад любові Божай у Хрысьце Ісусе, Госпадзе нашым" *(Рым 8, 38-39).* Найгалоўнейшы сэнс і зьмест пакліканьня да манаства – гэта пазнаньне Божае любові да нас і адказ на Ягоную любоў. Манахі праз любоў да Бога робяць сваё жыцьцё падобным да жыцьця Хрыста, "гэта тыя, якія ідуць сьледам за Ягнём, куды б Яно ні пайшло" *(Адкр 14, 4).* Праз любоў яны ўпадабняюцца Хрысту. Падабенства – гэта штодзённая праца. Зьберагаючы ***цнатлівасьць***, богапасьвячаная асоба засвойвае чысьціню Хрыстовай любові і вызнае Яго перад сьветам як адзінароднага Сына, адзінага з Айцом; успадкоўваючы ***ўбогасьць***, вызнае Сына, Які ўсё атрымлівае ад Айца і з любові ўсё Яму аддае; ахвяруючы ўласную волю, робіцца саўдзельнікам таямніцы Яго сыноўняга ***паслуху***, вызнаючы Хрыста ўмілаваным і любячым, як Таго, Хто шчасьлівы аддаць Сябе цалкам волі Айца" *(VC 16).* Праз пераймавьне Хрыста Бог асьвячае тых, каго паклікаў за Сабой, і пабуджае іх працягваць Гасподнюю місію. Руплівасьць дзеля ўстанаўленьня Божага Валадарства і збаўленьня братоў і сёстраў – найлепшы доказ сапраўднага самаахвяраваньня ў жыцьці манахаў.

Коратка сутнасьць манаскага пакліканьня можна выразіць у наступных словах: "Манах – гэта чалавек, які шукае Бога. Манах – гэта чалавек, які ідзе за Богам. Манах – гэта чалавек, які жыве ў Богу. Манах – чалавек, у якім жыве Бог" *(ігумен Рыгор Планчак).*

*Усесьвятая Тройца, найбласлаўлёная і крыніца ўсялякага бласлаўленьня! Блаславі сваіх сыноў і дачок, якіх Ты паклікала, каб праслаўлялі веліч Тваёй любові, міласэрнай дабрыні і красы. Дзякуй Табе за дар богапасьвячанага жыцьця, што з вераю шукае Цябе і, выконваючы сваю сусьветную місію, заклікае ўсіх наблізіжацца да Цябе (VC 111).*

**Брат ЗЬМІЦЕР (Чарнель)**

---

# *Як я стаў рэдэмптарыстам*



• **Брат Апалінар**

Мяне завуць Апалінар. Я нарадзіўся і вырас у Берасьці. Пасьля школы я паступіў у недзяржаўны інстытут на эканамічны факультэт. Скончыўшы першы курс інстытуту, я перажыў асабістае навяртаньне да Бога і прыняў хрост у Грэка-Каталіцкай Царкве, у парафіі майго гораду.

Аднойчы, у пілігрымцы ў Полацак, я пазнаёміўся з двума манахамі з Украіны. З гэтага часу ў мяне зьявілася жаданьне бліжэй пазнаёміцца з манаствам. Калі я вучыўся ўжо на другім курсе інстытуту, мяне ўвесь час трывожыла думка пра верны выбар свайго жыцьцёвага пакліканьня. Я часта прасіў Бога, каб паказаў мне правільную дарогу. Аднойчы я сказаў свайму параху, што хачу вучыцца ў Духоўнай семінарыі, але ён парадзіў мне спачатку скончыць інстытут.

Пасьля таго, як я скончыў другі курс, адзін семінарыст з Украіны, які летам жыў у нас у парафіі, прапанаваў мне пажыць нейкі час у манастыры Чына Найсьвяцейшага Выкупіцеля, які яшчэ называюць Ордэн рэдэмптарыстаў *(ад лац. redemptor – выкупіцель).* Гэта ордэн місіянераў, якія, пераймаючы Хрыста, праз жыцьцё ў апостальскай супольнасьці, прасякнутай брацкай любоўю, пакліканыя прапаведаваць Добрую Навіну найбольш духоўна занядбаным людзям, асабліва ўбогім, найслабейшым і прыгнечаным, падобна як Ісус быў чуйны да патрэбаў людзей, міласэрна схіляючыся над іх клопатамі, бо яны былі як авечкі без пастуха. Я радасна пагадзіўся прыйсьці і паглядзець на жыцьцё ў манастыры *(пар. Ян 1, 39).* Там мне вельмі спадабалася. Я захапіўся духоўнымі кнігамі заснавальніка рэдэмптарыстаў сьв. Альфонса Лігуоры, пра якога Ян Павел II сказаў, што ён "быў гігантам ня толькі ў гісторыі Царквы, але ўсяго чалавецтва" і што ён "для сучаснага каталіцтва зрабіў столькі, колькі ў старажытнасьці сьв. Аўгустын". Якая ж вялікая была мая радасьць, калі пасьля вяртаньня дадому я адразу атрымаў бласлаўленьне айца Архімандрыта ўступіць у Чын сьв. Альфонса. Як найхутчэй я забраў дакументы з свайго інстытуту і вярнуўся ў манастыр ва Ўкраіну. Айцы і браты вельмі ўсьцешыліся, што я так хутка вярнуўся.

Гэтая гісторыя пра знаходку "адной каштоўнай пэрлы" *(пар. Мац 13, 46),* якою я называю сваё пакліканьне да гэтага цудоўнага Чына прапаведнікаў. Рэдэмптарысты – вялікая сям'я, члены якой жывуць ва ўсім сьвеце, і я бясконца шчасьлівы належаць да яе.

**Брат АПАЛІНАР (Нікалаеў)**

# Пакліканьне да сьвятарства

***Добры Пастыр аддае за авечак жыцьцё сваё (Ян 10, 11)***



Сьвятарства заўсёды адыгрывала ў грамадзтве вялікую ролю, і сёньня яго значэньне цяжка пераацаніць. Яно бярэ свой пачатак з інстытуту Апостальства, а значыць з задумы і волі самога Ісуса Хрыста. Тайна сьвятарства — гэта тайна, дзякуючы якой пасланьне, даверанае праз Хрыста апосталам, і далей спаўняецца ў Царкве. Улада, якую Госпад даверыў пастырам свайго народу, ёсьць сапраўднай службай. Сьвятарства цалкам скіравана да Хрыста і людзей, цалкам залежыць ад Хрыста і яго адзінага сьвятарства. Яно было ўстаноўлена для людзей і для супольнасьці Царквы. Тайна сьвятарства перадае сьвятую ўладу, адзіным уладальнікам якой зьяўляецца Ісус Хрыстос. Выкананьне гэтай улады павінна быць падобным да ўзору Хрыста, "Які з любові зрабіў сябе апошнім і стаў слугой усіх" *(Мк 10, 43-45)*. "Правільна Госпад назваў апеку над авечкамі доказам любові адносна Яго" *(сьв. Ян Залатавусны)*.

Сьвятарства сваім заданьнем мае ня толькі выяўляць Хрыста перад вернымі, але дзейнічае таксама ў імя ўсёй Царквы, калі заносіць да Бога малітвы Царквы, асабліва калі складае еўхарыстычную Ахвяру. Духовы дар, які сьвятар атрымаў праз высьвячаньне, рыхтуе яго да шырокай і паўсюднай місіі, з сэрцам, гатовым да абвяшчэньня Евангельля.

Сваю сьвятую місію сьвятар зьдзяйсьняе найперш у кульце, ці еўхарыстычнай вячэры, у якой ён дзейнічае ў заступніцтве Хрыста. У час, калі абвяшчае таямніцу і далучае малітвы вернікаў да ахвяры Таго, Хто ёсьць яго Галавою, сьвятар робіць прысутнай у сьв. Літургіі адзіную сьвятую ахвяру Новага Запавету, а менавіта Хрыста, Які ахвяраваўся Айцу на беззаганную ахвяру. З гэтай ахвяры чэрпае сваю моц уся сьвятарская паслуга.

Сьвятарскае жыцьцё павінна быць прыкладам для іншых. На жаль, часам сустракаюцца сьвятары, якія занядбалі духоўнае жыцьцё і сваімі паводзінамі падрываюць аўтарытэт Царквы. Але трэба разумець, што Тайна Сьвятарства не забясьпечвае чалавека перад людзкімі слабасьцямі, памылкамі, а нават і грахом. Так як праз таго, хто спаўняе сьвятарскую паслугу, дзейнічае і збаўляе Сам Хрыстос, то нягоднасьць сьвятара ня ёсьць перашкодай для дзейнасьці Госпада.

Ніхто ня мае права на атрыманьне Тайны Сьвятарства, так як ніхто ня можа прызнаць самому сабе гэтай паслугі. Кліча да яе Бог. Бог заклікае чалавека да супрацоўніцтва, кліча далей працягваць справу збаўленьня на зямлі. Як кожная ласка, Тайна Сьвятарства можа быць прынята толькі як незаслужаны дар. Ён даецца чалавеку, выбранаму Госпадам у таямнічы спосаб. Бог цэніць нашу свабодную волю і хоча, каб усякі выбар мы рабілі дабравольна, без прымусу, і каб усё, што мы робім, мы рабілі з любові да Яго. І Ён заўсёды цярпліва чакае на адказ з нашага боку. Чалавек павінен сьвядома выбраць такі шлях, усьведамляючы ўсе мінусы і плюсы. Нельга змушаць да гэтага, бо Тайна Сьвятарства ўдзяляецца раз і назаўжды. Прыняўшы аднойчы рашэньне, чалавек нясе адказнасьць усё сваё жыцьцё. Трэба ўсьведамляць усе цяжкасьці сьвятарскага жыцьця і быць падрыхтаваным да іх. А пасьля зрабіць свой выбар з радасьцю і ўдзячнасьцю да Бога за прапанову да супрацоўніцтва.

Хто лічыць, што адчувае знакі пакліканьня да сьвятарства, павінен пакорна аддаць сваё прагненьне аўтарытэту Царквы, на якой ляжыць адказнасьць і права выбару высьвячаньня ў святары.

**Андрэй ГАЙДУКЕВІЧ**



# Пакліканьне да сужэнства

***Таямніца сужэнства – гэта не магічны абрад, які гарантуе шчасьце. Гэта выражэньне волі мужчыны і жанчыны разам будаваць сям'ю. Кажучы словы шлюбнага абяцаньня перад сьведкамі, сьвятаром і Богам, двое людзей бяруць на сябе абавязкі.***

***"Я, (імя), бяру цябе (імя) за жонку (мужа) і абяцаю табе захоўваць любоў, вернасьць і сужэнскую чысьціню , а таксама не пакіну цябе да самай сьмерці. Няхай у гэтым мне дапаможа Госпад, Бог Усемагутны, у Тройцы адзіны, і ўсе сьвятыя".***

Госпад зьвяртаецца да кожнага з нас: "Ідзі за мной" *(Мц 9, 9)*. Пайсьці за Богам не азначае нічога іншага, як згадзіцца з усім, што Ён жадае зрабіць у нашым жыцьці. Згадзіцца, каб Бог мог зьмяніць маё жыцьцё адпаведна Яго волі. Паколькі толькі Ён ведае, што найлепшае для кожнага з нас. На працягу ўсяго жыцьця чалавек выпрабоўваецца ў розных сітуацыях, вырашэньне якіх, у сваю чаргу, дазваляе яму быць самім сабой. Такая служба – гэта адданьне ўсяго Ісусу, і гэта прыносіць вялікі спакой сэрцу, калі, слухаючы Ісуса, дапамагаеш бліжняму наблізіцца да Яго міласэрнай Любові. Служэньне Богу – гэта проста выкананьне Яго волі. Яно можа праявіцца ў розныя спосабы. Адным з іх ёсьць адданьне самога сябе жыцьцю ў сужэнстве, у сям'і.

Пакліканьне да сужэнства было самым першым зваротам Бога да чалавека: "Пладзіцеся і множцеся" *(Быц 1, 28)*. Бог, які ёсьць Любоў, стварыў чалавека на вобраз і падабенства Сваё. Паколькі Бог стварыў мужчыну і жанчыну, іх узаемная любоў становіцца вобразам той абсалютнай і незьнішчальнай любові, якой Бог любіць чалавека.

Сьвятое Пісаньне кажа, што мужчына і жанчына былі створаны адзін для аднаго: "Ня добра быць чалавеку аднаму; створым яму памочніка, адпаведнага яму" *(Быц 2, 18)*. Бог дае яму жанчыну, цела ад цела яго, што значыць, істоту роўную і блізкую яму, як дапамогу, якая прыходзіць ад Госпада: "Успамога мая ад Госпада, што неба стварыў і зямлю" *(Пс 121, 2)*.

*(Працяг на с. 4)*

# Пакліканьне да сужэнства

*(Заканчэньне са с. 1)*

Як нельга папрацаваць некаторы час сьвятаром і звольніцца на ўласнае жаданьне, так нельга (насуперак погляду сучаснага сьвету) пабыць некаторы час мужам ці жонкай і потым спакойна пакінуць сям'ю. Аднойчы ўсьвядоміўшы Боскую місію ў адносінах да сябе, чалавек павінен заставацца верным ёй аж да канца жыцьця. Адказваючы на пакліканьне, ня варта чакаць радасьці і супакою, якіх-небудзь ільготаў і прывілеяў, але будзе мноства праблемаў і выпрабаваньняў, цярпеньняў і самаадрачэньня. Ня рай дае Бог пасьлядоўнікам сваім, але крыж, бо "праз шмат мукаў трэба нам увайсьці ў царства Божае" *(Дз 14, 22).* Мужчына і жанчына, годныя выконваць сужэнскую місію, ня толькі павінны быць падрыхтаваныя і ўмець вырашаць праблемы і канфлікты сямейнага жыцьця, але й умець любіць адзін аднаго. Самы ўпарадкаваны быт, глыбокія веды ў сямейнай псіхалогіі, паслухмянасьць дзетак губляюць свой сэнс, калі перастаюць служыць мэтам любові. Недастаткова быць здаровым, прывабным, багатым ці камунікабельным. Паўнавартасную сям'ю можа стварыць толькі сталая асоба, якая ўмее любіць і дарыць сваю любоў іншаму чалавеку.

Самая вялікая каштоўнасць нашага жыцьця – любоў. Здабыць яе можна толькі праз бескарысьлівае адданьне сябе Богу і бліжняму. Для кожнай маці, для кожнага бацькі самай важнай справай жыцьця зьяўляецца адкрыцьцё і вьтканаиьне Божых планаў адносна іх сужэнства, нараджэньня й выхаваньня дзяцей. Сям'я выканае сваю місію, даручаную ёй Богам, толькі ў тым выпадку, калі сужонкі будуць памятаць, што фундаментам іх еднасьці і крыніцай любові зьяўляецца Ісус Хрыстос.

**Аляксей ФІЛІПЕНКА**

## І зноў бачыш

І зноў бачыш (e) самотны твар (a),
Ізноў бачыш (e) вочы, поўныя смутку (D),
Згублены сярод (e) штодзённых спраў (a)
З тысячы праблем (e) у сэрцы(D) крыўду(e) хаваеш (H7).

*Прыпеў:*
Радасна сьпявай (G), бо з неба на цябе глядзіць Айцец (e)
і ведае ўсе, чаго хочаш ты (C).
Але чакае, калі даверыш сэрца (H7),
Больш не сумуй – з табой заўсёды Бог (G ),
цябе любіць Ён (e).
Усё табе прабачыў, ня бойся больш (C),
Што з табою станецца, калі Бог – Айцец твой (H7).

Чаго прагнуў ты больш за ўсё,
шмат надзеяў ускладаў на гэта.
А тут раптам не шанцуе зноў,
Усё іначай адбылося.

Шмат жадаеш ты, вельмі шмат.
Бяжыш за шчасьцем, а яно ўцякае.
Крыж штодзённы хочаш скінуць з плеч,
Хаваешся, а Бог цябе чакае.




## Гумар айцоў пустыні

• *Адзін нованавернены юнак спытаў старца:*
*— Ойча, што гэта я цяпер мушу цалкам адрачыся ад сьвету?*
*— Ня бойся, — адказаў старац, — калі тваё жыцьцё будзе сапраўды хрысьціянскім, то сьвет адразу ж адрачэцца ад цябе.*

• *Аднойчы сьв. Антоні пачуў:*
*— Ты самы вялікі манах усяго Ўсходу!*
*— Я ведаю. Д'ябал мне гэта ўжо сказаў, — адказаў ён.*

• *Сьв. Антоні-пустэльнік аднойчы сказаў:*
*— Усіх людзей можна падзяліць на тры катэгорыі: на зайздросных, пыхлівых і іншых. Іншых, праўда, ніколі не спаткаў.*

• *Адзін стары манах меў шмат кніг у сваёй кельлі і вялікую мудрасьць у сэрцы. Малады манах запытаўся:*
*— Ойча, чытаньне — гэта цяжкая рэч?*
*Адказаў:*
*— Чытаць – нічога, цяжэй запомніць тое, што прачытаў.*

## Вялікі Бог!

Найбольшаю з патрэб
Спрадвеку быў для нас
надзённы хлеб.
Ёсьць хлеб –
І ўсё астатняе няўзнак.
Ёсьць хлеб –
І нешта знойдзецца да хлеба.
Але аднойчы
Мы зазналі смак
Свабоды,
Што сышла нібыта зь неба.
Ды служка д'яблаў,
Майстра здрадных спраў,
З-пад носу ў нас
Свабоду нашу скраў.

І востры боль,
Што мне працяў душу,
Як рану,
Я ў сабе дасюль нашу.
Свабоды зноў
Хоць трошкі зьведаць мне б,
Бо безь яе –
І хлеб ужо ня хлеб.
Мой Божа,
Творца ладу і злагоды,
Пакаяцца
мне загадзя дазволь.
Каб хоць крыху суняць
Нясьцерпны боль,
Я хлеб мяняю
На глыток свабоды.

**Артур ВОЛЬСКІ**

**РАЗАМ № 4 (20) - 2005**
дадатак да газеты «Царква», № 4 (47)

**Над выпускам працавалі:**
Сяргей Гілейша, Андрэй Гайдукевіч і Аляксей Філіпенка *(Драгічынь-над-Бугам, Польшча)*; бр. Апалінар Нікалаеў і бр. Зьміцер Чарнель *(Львоў, Украіна)*



**ПІШЫЦЕ НАМ:**
**razam@biz.by**

**«RAZAM»**
**W.S.D., ul.Kościelna 10,**
**17-312, Drohiczyn, POLSKA**